# РОДНЫЯ ГОНІ






## КНІЖКА 5

Літог. Х. Ласкова в Вільно

**Цана 75 грашоў.**

# РОДНЫЯ ГОНІ

**МЕСЯЧНІК ЛІТАРАТУРЫ Й КУЛЬТУРЫ ЗАХОДНЯЕ БЕЛАРУСІ.**

**1927.** Ліпень—Жнівень. **1927.**

| | | |
|---|---|---|
| **КНІЖКА V.** | АДРЭС РЭДАКЦЫІ:<br>Вільня, Крывое Кола, 21.<br>**Wilno, Krzywe Koło 21.** | Падпіска на год . 8 зал.<br>На 3 мес. . . . 2 зал.<br>Адна кніжка . . 75 гр. |




НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЕВА.

## Маячэньні...

Апусьцілі бярозы зялёныя рукі ў распачы
Да расістай, цяжкой, нярухомай травіцы.
Шэры змрок над зямлёю ўстае і панура клубіцца,
Чуць калматы хвайняк у бясплодным лагу
варушыцца
І сава нейдзе плача....
А ноч чорнае кола сьціскае наўкола, сьціскае,
Ўсё бліжэй, ўсё цясьней, халадней і .. задушыць,
здаецца.
Цішыня толькі дзіўна зьвініць і варожа сьмяецца.
Сэрца б'ецца трывожнай, бяскрылаю птушкай
у клетцы
Ў чорнай ночы, здаецца, растае...
Не, парвецеся, струны зьвінячыя—начныя гукі,
Расступіся, калматая ноч, і пусьці маё сэрца
на волю
Да жыцьця, да сьвятла, да натхненьня, да шчасьця
бяз болю!

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Срэбнай стужкай туман-варажбіт разьвярнуўся
па полю
І ўгару падымаюць бярозы зялёныя рукі....

Чэрвень 1927 г.

НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЕВА.

## Калі...

Калі згасьне апошняе зьзяньне
Там высока, паміж аблачынаў,
І выходзіць з лагчынаў зьмярканьне,
Абхінуўшыся хусткаю сіняй,
Калі сьняць вербалозы над рэчкай
Аб чаруючым сонечным сьвяце,
Калі белаю воўнай авечкаў
Устаюць туманы з сенажаці,
Калі ў небе крыштальна-зялёным
Маладзік залаты выплывае,
Калі сьпеўным, адрывістым звонам
Жабі хор у лагу запявае,—
О, тады забываецца дзіўна
Ўсё, што ёсьць на зямлі, навакола,
І сьмяецца душа пераліўна,
І ўзьлятае высока, вясёла!
Сьветлым зданьнем вясёлкай шугае
У нябеснае сіняе поле
І сьмяецца душа і вітае
Ўсё, што ёсьць.... а ня будзе ніколі!

Чэрвень 1927 г.

## Вясёлка.

Лягла вясёлка мастом дрыжачым,
Мастом, затканым з калёраў тонкіх
Ад мокрых ніваў у бор, няйначай,
У бор, дзе сонна гудзяць сасонкі...
Красою чыстай ты цешыш вочы,
Красой,—нясталаю, як доля...
Чаго-ж прышла ты, чаго ты хочаш,
Вясёлка, ў сінім нябесным полі?
Пацешыць хочаш узьлётнай казкай,
Падняць з зямелькі у вышу вока?
Гарыць вясёлка прыгожай краскай,
Мастом дрыжачым ляжыць высока.
І зданьні мостам дрыжачым сходзяць
З паднебных высяў, з нязнаных даляў,

Вясьняным чарам маняць і зводзяць,
Калышуць сьпеўным напевам хваляў
З краіны дзіўнай маны й надзеі
І сны сплываюць мастом дрыжачым.
Шчасьлівы той, хто сьніць умее,
Шчасьлівы той, хто іх пабачыць!

Чэрвень 1927 г.

ЗЬВЯСТУН.

## Наперад, гэй...

Да родных ніў пальлецца сьпеў
З прызывам усіх да працы,
Дагэтуль шчасьця хто ня меў,
Пайдзі яго шукаці.
І з гучным зовам зашуміць
Наш лес многавяковы—
Там сонца праўды заблішчыць,
Асьвеціць пушчы сховы.

Наперад, гэй, хутчэй, хутчэй
Да тэй жаданай мэты,
Хай сонца блісьне нам сьвятлей,
Асьвеціць шлях асьветы.

Дзе серп бліпчыць, зьвініць каса,
Дзе льлецца пот крывавы,
З расьсьветам змые ўсё раса—
Там будзе поле славы.
І на прасторах родных ніў
Культуры сьцяг паставім,—
Дзе кат уладу закляйміў,
Там вольнасьць мы праславім.

Наперад, гэй, хутчэй, хутчэй,
Да тэй жаданай мэты,
Хай сонца блісьне нам сьвятлей,
Асьвеціць шлях асьветы!

Бо з нашай стогнучай душы
Сэрца ніхто ня вырве...
Яно дажджэ свае пары
І вольнасьцяю брызгне.
Яно ня зрадзе ўжо таму,

Хто ходзіць век загнуты,
Хто век цярпеў, служыў ярму,
Насіў няволі путы.

Наперад, гэй, хутчэй, хутчэй
Да тэй жаданай мэты,
Хай сонца блісьне нам сьвятлей,
Асьвеціць шлях асьветы.

Мы шлях пакуты ад вякоў
Сьлязамі акрапілі
І пад чужацкаю рукой
Мы гарт душы здабылі.
Ўставай, галодны беларус,
Служыць радзімай справе,
Скінь з плеч прыгоны і прымус,
Здабудзь дарогу к славе.

Наперад, гэй, хутчэй, хутчэй,
Да тэй жаданай мэты,
Хай сонца блісьне нам сьвятлей
Асьвеціць шлях асьветы!

в. Сакоўцы, 20. VI. 1926 г.

В. ВАЛЬТЭР.

## Дух часу.

Нехта няведамы ходзе,
Вось не злавіць, не забіць.
Думкі аб новай свабодзе
Стаў ён людзём гаварыць.

Што яму войска, што межы,
Што гэты варты прад ім?
Ен-жа як дым без адзежы,
Ен-жа хутчэйшы за дым....

Зьляцца*) на варце, як зьверы,**)
Мсьцяць ўсё людзём,—не яму,
І праз зялезныя дзьверы
Гоняць нявінных ў турму.

Дух-жа ўсё ходзе ды ходзе!
Не,—яго ў век не злавіць...
Нехта аб новай свабодзе
Ў вёсках пачаў гаварыць...

Дзьвінск, 1927 г.

*) рус., паблр.—злуюцца. **) рус., паблр.—зьвяры.

ПАЛАЧАНКА.

# Хваравіты.

Памятую, як канаў мой бацька. Памятую, як білася ў канвульсыўным плачу мая маці, а старшы брат, заўсёды такі пэўны сябе і вясёлы, прынямеў і ўсе рысы ягонага твару выражалі цярпеньне й страх.

А я—я чакаў гэтае часіны ўжо даўно. Меў я 13 год і ніколі ня бачыў сьмерці. І першы раз я пачуў, як раздвоілася мая душа.

— Вось як канае чалавек,—думаў.

Адна палова душы дрыжэла ў вялікім бязьмерным жалю, плакала над стратай дарагое істоты, а другая прыглядалася з цікавасьцяй да ўсіх праяўленьняў гора людзкога, да ўсіх ягоных адценяў у сваёй душы і ў душах акружаючых.

Пасьля я пачаў пісаць. Пачаў пісаць аб каханьні, яшчэ ня ведаючы яго. Стараўся пазнаць яго і пазнаў. Тады ўсьцешылася палова мае душы.

— Вось яна любасьць людзкая! Будзем на старожжу, паглядзем, што чуе чалавек. Пазнаў кволую белую дзяўчынку Аўдулю Не, ня была хароша я, але мела неазначаны чар багацьця й выквінту.

Уся была штучная, надробленая. Насьмешлівыя шэрыя былі ейныя вочы і валасы як попел. Сьмiялася з мяне, дрэнчыла, насьміхалася і вышла замуж за купца. Разьбіла мае сэрца бязумоўна. Але для ведамае часткі майго „я“ гэтая нешчасьлівая любасьць дала вялікі й бязцэнны скарб. Сухі й сьцюдзёны абсэрватар жыў ува мне і капаўся ў душы маёй. Зацеміў ён і твар мой выразна пачарнелы, як бы спалены ўнутраным агнём у галавешку, і вочы пасівелыя як ашалелыя.

Хадзіў за мной па вуліцах бяз мэты як аўтамат, куды вочы глядзяць і казаў мне голас яго: лучыш пад колы—тым ляпей. Але абміналі нeяк колы аўтамабілеў і жыў далей і на‘т забыўся і Аўдулю. І калі раз спаткаў яе і яна першы раз за ўвесь час шчыра й проста сказала: Сяргею, я й сама ня думала, што вы мне гэтак дарагі,—было дзіўна й няпрывычна чуць гэта з ейных вуснаў прывыклых да насьмешак. Няпрывычна й... непавабна гучэлі ейныя словы.

Другі, трэці, пяты, дзесяты раз кахаў. На кліч мой ляцелі жанчыны, як матылі на агонь, а на звон срыбра ляцелі тысячы іх. Сумна й нудна была „кахаць“.

Крыху радасьці дала жонка. Яна навучыла мяне працаваць. Быццам дыхнуў жывога веснавога паветра. Неба стала сінейшае і дзень ясьнейшы, а трава пад нагамі смарагдамі скрылася; глыбокі супакой агартаў душу, супакой і пагода. — Вось яна сямейная ідылья!,—кажа голас душы мае. — Даволі. Ты засынаеш, — кажа голас далей. Што ты можаш ведаць, аб чым пісаць? Аб тым, як вара істраву

Вольга ў стаптаных апорках? Або аб тым, як малыя Ксюта й Уладка цягаюць ката за хвост?

І ўсё часьцей рупіць голас: Ці ты ведаеш, што значыць ходаньне, што значыць ходаньне за лепшае, за волю, нарэсьце за хлеб з маслам для сваіх братоў? А барацьба за незалежнасьць? Круцілася галава мая.

Сёдня Вольга купляла дровы ў селяніна, у старога чорнага з хітрым вокам. Ен усё прыкідаваўся, што ня можа зьлічыць рэшту і хацеў ашукаць яе на 15 грашоў.

Але, хітрыя былі ягоныя вочы, бо па палене насіў ён з лесу ўночы, пакуль не набраў на тры залатоўкі семдзесят пяць грашоў. Ах, гэтыя хітрыя вочы. Якраз такія мае Ксюта й Уладка як просяць у мяне на цукеркі.

Прышла пара, калі накладаў торбу на плечы і з цёмнай хаты праходзіў у цёмную хату і казаў закопчаным згорбленым людзём з сінімі дзіцячымі вачыма: „Цярпеце крыху, кахайце свой край. Можа прыйсьці гадзіна, калі трэба будзе жыцьцё прынясьці ў ахвяру яму, дзеля дабра блізкіх. Ня бойцеся, гэта ня страшна, гэта лёгка, трэба толькі захацець і ў гэтым шчасьце. Сёдня хлеба мала—нічога! Заўтра будзе хлеб“. Мацаваўся дух мой, ня згінуў за кратамі. Праз маленкае ваконца слухаў сьпевы птушак з бацькаўшчыны, сонечныя косы піў.

Расчынілася нарэсьце зялезная брама. Вось яна радасьць ходаньня!—чую голас часткі душы. Даволі. Калі церпіш і мучышся, калі радасьць або гора перажываеш, калі жыцьцё тваё б'е як вулкан у шыбкім і гарачым тэмпе—ты ня можаш тварыць. Даволі перажыў. Сядзь супакойна ў фотэль.

Сеў супакойна ў фотэль. Усе косьці грызе раматуз. Сёдня ў левай назе, заўтра ў каленах, пазаўтра ў правым плячу. Ламата. Мімаволі падводзіцца білянс пражытага. Шмат год за плячыма, ажно згінаюцца плечы пад цяжарам іх. Ці было шчасьце ў маім жыцьці? Ці было гора? Радасьць? Не, хіба поўнага ані шчасьця, ані радасьці, ані гора ня бачыў, бо заўсёды адна частка душы супакойна й сьцюдзёна назірала другую і казала: Усё пройдзе, усё міне,—і з сьцюдзёнай крывёй хіміка аналізавала ўсе перажываньні, грабалася ў жывой палове душы.

Ці ня гуляў я заўсёды перад людзьмі і ці ня гуляў я перад самым сабой? І цяпер мне здаецца, што кожны рух мой—гэта поза.

Маю жонку, да якой прывык, без якой чуюся, як бяз рук, але ведаю і формулу гэтакага роду прывычкі. Маю дзеці, якіх люблю—але ведаю формулу свайго каханьня.

І цяпер цяжка мне. Хацеў-бы звольніцца з-пад вечнага нагляду часткі свайго „я“ і пажыць хоць некалькі дзён поўным, вольным жыцьцём. Ізноў чую зьненавіджаны голас: Вось яна старасьць чалавека.

МІК. ІЛЬЛЯШЭВІЧ.

# Вінцэнты Дунін-Марцінкевіч.*)

(*Агульна-крытычны начырк*).

Каб уцяміць значэньне Вінцэнтага Дуніна-Марцінкевіча ў беларускім адраджэньні, наўперад трэба добра зразумець тую эпоху, у якую жыў і працаваў пісьменьнік. Мусім адзначыць, што нябыцьцё, а галоўнае раскіданасьць матар'ялаў аб працы Марцінкевічавай, не даюць магчымасьці правільна комэнтаваць ягоную дзейнасьць. Асабліва гэта прыкмячалася ў часы грамадзкае сумятлівасьці, у якую гэтак пільна пачынаецца вывучэньне беларускае літаратуры. Разгляданы пісьменьнік, балей за іншых папярэднікаў і сучасьнікаў тае эпохі, пакрыўджаны беларускімі крытыкамі. І толькі ў вапошнія часы па выяўленьні некаторых матар'ялаў, праліваючых косы сьвятла на Марцінкевіча як асобу, зусім зьмяняюцца пагляды крытыкаў; ён гэткім парадкам усё вышэй і вышэй падыймаецца ў сваім значэньні сярод беларускага грамадзянства.

---

Калішняя „беларуская слава й воля адыйшла, адцьвіла закацілась“...—вось як пяе адзін з выдатнейшых нашых пісьменьнікаў, Алесь Гарун, характарызуючы слаўную беларускую мінуўшчыну.

Прайшлі часы незалежнага палітычнага й культурнага жыцьця Беларусі і насталі часы стагодзьдзяў занападу, цемры й прыгону спачатку ад Палякоў, а пасьля Маскалёў-Расейцаў. Беларуская мова, культура, права сілком была аддалена з гаспадарсьцьвенага ўжываньня і загнана толькі пад стрэхі сялянскіх хатаў, дзе, здавалася-б, павінна была-б зусім шчэзнуць з прычыны палячэньня й маскаленьня.

Праўда, калі мы прыглядзімся бліжэй да агульнага палажэньня іншых народаў у канцы XVIII і пачатку XIX стагодзьдзяў, як напр: Чэхаў, Украінцаў, Баўгараў, Ліцьвіноў і інш., дык пабачым амаль што аналёгічнае зьявішча да нас. Час даўгога занядбаньня ўсіх паняволеных вонкавай сілай народаў памалу прыпыняецца толькі пасьля вялікага патрясу Францускае Рэволюцыі і сьцягу ёй паўторных. Лёзунгі свабоды, роўнасьці й братаньня данесьліся на хвалях гэтых рэволюцыяў і на нашую Бацькаўшчыну, узбудзіўшы ад даўгога сну беларускі народ.

Пачынаецца адраджэнскі рух ня толькі сярод простага беларускага сялянства, але таксама і сярод беларускае

*) Рэфэрат чытаны 30. XII. 1924 г. на абыходжаньні 40-ых угодкаў сьмерці пісьменьніка праскай беларускай колёніяй.

шляхты, у той час значна спалячанай і абмаскаленай, якая стаяла на шляху да поўнага адчураньня ад свайго народу.

І вось пад той час, калі часьць беларускае шляхты з часткаю сялянства, у васобе сваіх прадстаўнікоў, як Кастусь Каліноўскі і іншых рэволюцыянэраў (50—60—70 гады XIX ст.), пачынае аружнае вызваленьне на грунце социяльных і політычных імкненьняў, справу культурна-нацыянальнага адраджэньня пачынаюць таксама пераважна прадстаўнікі беларускае шляхты—тагочаснае беларускае інтэлігенцыі. Водгульле гуманных ідэяў, ідучых з Заходняе Эўропы, адбілася ў васобных прадстаўнікоў шляхты, і дало магчымасьць зразумець тое агіднае зьявішча рэнэгацтва, якое яна робіла ў працягу даўгога часу. Памалу пачынаецца яе зварот да роднага карэньня—беларускае гушчы. Не малую ролю ў гэтым звароце згуляў і романтызм, што запанаваў у літаратуры.

Агулам, Беларусь пачала свой рэнэсанс; пачала паўставаць да новага жыцьця. Разбудзіўшыся ад векавога сну, асобныя адзінкі з беларускага народу пачалі шукаць тых дарог, па якіх можна было-б як найляпей дайсьці да сьветлае будучыні—поўнага й усебаковага адраджэньня. Але дарогі да замігацелае на небасхіле зоркі адраджэньня былі яшчэ няпэўныя й неазначаныя; доўга прыходзілася блудзіць першым пачынальнікам пасярод няпрыветнае цемры па запушчанай беларускай глебе.

Вось-жа пры азнаямленьні з пачаткамі нашага навейшага руху агулам, каторы йдзе ў фармаваньні на працягу ўсяго XIX веку, яскрава вырысоўваюцца з пасярод рабачаёў на гэтай ніве дзьве вялікія адзінкі: Марцінкевіч і Багушэвіч. Паколькі Багушэвіч замацаваў беларускі грунт канчальна, азначыў яго зьмест і ўмацаваў усё гэта ў літаратурнай форме і кірунку вызваленьня социяльна-нацыянальнага,—патолькі на долю Марцінкевічаву выпала стварэньне беларускага грунту, з таго няпэўнага яшчэ матар'ялу, які ў тыя часы прыходзілася адшукаваць вошчупкам. Вось чаму стане зразумелым, што Марцінкевіч твора эпоху. Па выказу аднаго з беларускіх крытыкаў, З. Жылуновіча гэтая эпоха „адзначаецца высокім узьлётам беларускае грамадзкае думкі і зорыць значнымі сіламі дзеячоў, якія сваёй працай паставілі беларускую культуру наагул і беларускую літаратуру ў асобку на ступень сур'ёзнае нацыянальнае справы".*) Марцінкевіч зьяўляецца тым цэнтральным зьвязуючым колцам паміж маласьвядомымі беларускімі пачынальнікамі-адраджэнцамі, якія ў разбродзьдзі шукалі пэўнага грунту дзеля свае працы.

З цэлага сьцягу сучасьнікаў Марцінкевічавых, беларускіх літаратурных рабочаёў пачатку й сярэдзіны XIX в.

*) Глядз. Зборнік „Беларусь" Менск 1924.

(напр: Баршчэўскі, Чачот, Рыпінскі і інш.) ніводны з іх не карыстаўся такой популярнасьцяй як Марцінкевіч. Прычынай гэтаму служыла тое, што яны займаліся беларускай літаратурнай працай толькі ў вольныя часіны, у пэрыяд захопленьня пад вонкавым уражаньнем, не прыкладаючы асаблівай увагі; у той час як Марцінкевіч у сваёй дзейнасьці бачыць беларускую справу, якую рабіць вымагаў час, хоць і ня прыялі абставіны. Ен станоўка пераходзе да пісаньня амаль што вылучна пабеларуску, чаго не зацемлюем у ягоных папярэднікаў і сучасьнікаў. Бо, як кажа сам пісьменьнік у прадмове да кніжкі: „Дудар Беларускі*), „беларускі селянін, бачачы кніжку ў роднай мове, ахватней яе чытае і дзетак сваіх ахватней прыцягуе да асьветы".

---

Вінц. Дунін-Марцінкевіч, ведамы пад псэўдонімам**) Навум Прыгаворка, радзіўся ў 1807 годзе ў Панюшковічах, Бабруйскага павету ў Меншчыне. Сын дробнага ляндара, каторы ў 1860 годзе купіў невялікі дварок Люцынку недалёка Менску, Д.-Марцінкевіч дастаў сярэднюю асьвету ў Бабруйскай гімназыі. Потым бацька паслаў яго ў навуку да вуніяцкіх айцоў базыльлянаў у Вільню, але адтуль хутка ён перабіраецца ў Пецярбург. Там Марцінкевіч паступіў у унівэрсытэт на мэдыцынскі факультэт, аднак вышэйшую навуку скончыць яму не ўдалося. У канцы 30-х год ён варочаецца ў Беларусь і жыве пераважна ў Менску, час ад часу выяжджаючы ў двор Люцынку. Займаецца канцэлярскай працай, каторая служыць падпорай ягонага матар'яльнага быцьця.

Жаніўся двойчы ў 1831 і 1858 годзе. Пасьля паўторнага шлюбу канчальна перабіраецца ў двор, дзе жыве й працуе да самае сьмерці ў 1884 годзе 30 (17) сьнежня. Пахаваны ў Тупальшчыне.***)

Па сваім павароце з падарожжаў дзеля навукі ў Вільню й Пецярбург, асяродкаў тагачаснае перадавое думкі, Марцінкевіч пачынае займацца літаратурнаю працаю. Не малое значэньне ў заахвочаньні да яе мела і асабістае знаёмства з многімі, пераважна польскімі, пісьменьнікамі і выдатнымі грамадзкімі рабачаямі, што гуртаваліся ля Віленскага ўнівэрсытэту. Марцінкевіч піша й выдае сваё аповесьці, апавяданьні, драматычныя творы і іншыя вершы няраз сваім уласным коштам, хоць матар'яльныя засабы меў ад-

---

*) „Dudarz Białoruski" Менск 1875 г.

**) мявюшка выдуманае прозьвішча.

***) Біографічны матар'ял гл.: М. Гарэцкі: Гісторыя беларускае літаратуры". Вільня 1920 г. Е. Карскій: „Бѣлоруссы" III том. Киркоръ: „Живоп. Россія", том III 327 стар.

носна нязначныя. Паводле твораў, што да нас дайшлі, найпладнейшым часам ёсьць пара ад 1846 да 1870 году.

Праца ягоная даволі разнастайная. Праўда, у ёй няма выяўленьня глыбокіх філёзофічных проблемаў, абстрактных развагаў, каторыя маглі-б здаволіць вышшыя патрэбы інтэлігента. Усё творства, як кажа сам аўтар, прытарнавана пераважна для простага народу. Ня здасца дзіўным няхітраскладанасьць гэтага зьместу, калі прыпомнім сабе да гэтага войстрасьць вока расейскіх цэнзараў, канфіскаты і іншыя перашкоды пры друкаваньню кніжак з духам „нерусскимъ“. Варункі палітычныя змушалі Марцінкевіча цадзіць тое, што было магчымым выдрукаваць і пашыраць. Ен часта абмяжовуецца выяўленьнем матар'ялу этнографічнага.

У хронолёгічным парадку зьяўленьня твораў Марцінкевічавых маем:

„Сялянку“—опэру; „Гапон“, „Вечарніцы“, „Шчароўскія дажынкі“; комэдыі—„Пінская шляхта“, „Залёты“; пераклад з Адама Міцкевіча—Пан Тадэуш і інш. З дробных вершаў найхарактарнейшым ёсьць: „Вясна, голад, перапала...“.*) Шмат якія творы яшчэ дагэтуль нам няведамы. Мы бясcумлеву можам казаць, што гэтае творства, якое ведама нам, далёка няпоўнае. Некаторыя з вершаў, бяз подпісу аўтара, пайшлі ў народ і магчыма пры запісаваньні этнографамі ўважаліся за народныя, бо вершаскладаньнем і самым падыходам у зьмесьце пісьменьнік зусім блізка падыйшоў да беларускага сялянства. Нейдзе ў Варшаве загінуў ў 1890-ых гадох цэлы пераклад у рукапісах „Пана Тадэуша“.

Прыпадкова, навет яшчэ і цяпер, удаецца адшукаць некаторыя рукапісы. Гэтак нядаўна знойдзены верш, асабістага характару, пасьвячаны бацьком братоў Луцкевічаў: „Заўтра Спас кажуць людзі“, знойдзены ў Мозыры рукапіс опэры (лібрэтта) „Розна міласьць бывае“**) ды інш. Выкрыты таксама лісты Марцінкевічавы (пераважна прыватныя), каторыя малююць яго, як шчырага беларускага патрыёта. З жалям аднак мусім адзначыць, што поўны кубел рукапісаў згарэла падчас пажару хаты пісьменьнікавай, як канстатуе ягоная дачка. Асабліва цікаўны дзеля характарыстыкі Марцінкевіча выкрыўся факт з ягонага жыцьця; яго ў 1863 годзе арыштаваў расейскі ўрад і абвінаваціў у тым, што ён агітатар, падбуруючы беларускіх сялян супроць улады праклямацыямі ў Беларускай мове. Былі навет падазрэньні ў тым, што выдаваная беларускім рэволюцыянэрам Каст. Каліноўскім газэта: „Мужыцкая праўда“, справа ягоных рук.

Па 10 месячным арышце Марцінкевіча звольнілі, але гэты факт можа служыць добрым аргумэнтам у даказе

*) Гл. творчасьць Марцінкевіча „Białaruskija Pieśniary“ Том II і III Пецярбург 1908. **) гл. „Крывіч“ № 8.

шырокае ягонае папулярнасьці як уплывовага беларускага дзеяча й пісьменьніка.

Нязначныя спробы пісаць папольску ёсьць як адбітак уплываў польскае атмосфэры акружаючай ягонае хатняе жыцьцё. Даволі прыпамятаваць хоцьбы гэткіх несьвядомых Беларусаў як Манюшка, што ўзбагаціў польскую музыку беларускімі мелёдыямі, або Сыракомлю, часткава і іншых, каб дзівіцца мужнасьці Марцінкевіча не паддацца канчальна спакусам па іх прыкладах перакуліцца цалком у польскі лягэр. Ня гледзячы на ўсе закіды, не ўдалося забіць таго беларускага пачуцьця ў пісьменьніку, якое бясьпярэчна мусім прызнаць у значнай меры. Праўда, мо' толькі, каб ня гэны шкодны польскі ўплыў, Марцінкевіч быў бы ў сваёй працы радыкальнейшы, прысьпяшыў-бы беларускі рух памерне да іншых адраджаючыхся народаў.

Разглядаючы драбязьней літаратурную працу Марцінкевічаву, мусім адзначыць, што ён зьяўляецца найвыразьнейшым прадстаўнікам у нашай літаратуры романтызму і асабліва сэнтымэнталізму. Гэтыя літаратурныя кірункі, хоць і з запазьненьнем, лучылі ў Беларусь з Заходняе Эўропы. Гэтае творства ёсьць зусім нормальным пераходным зьявішчам ад псэўдоклясыцызму, што раней панаваў у нас, выяўленага выразна ў „Энэідзе“ і „Тарас на Парнасе“. Агулам творства Марцінкевічава даволі цікаўнае й размавітае; напісанае, хоць і сылябічным вершам, жыва й абразова.

Ня гледзячы на даўнасьць у напісаньні, ня губляе цікавасьці ў чытачоў і дагэтуль; а комэдыі ня зыходзяць з рэпэртуару беларускае сцэны. Дунін-Марцінкевіч, як кажа проф. Ігнатоўскі, ня можа, будучы шляхцічам спусьціцца ў усю глыб сялянскае масы. Ен перакананы, што паміж прыгоньнікам—панам, з аднаго боку, і запрыгоненым бяспраўным селянінам, з другога боку, соцыяльнае прорвы няма. Есьць толькі яма, каторую можна запоўніць без соцыяльнага ламаньня, аднымі моральнымі сродкамі.*) Дзеля гэтага ўсё творства ягонае й выглядае досыць монатонна. Дзеля характарыстыкі ў разглядзе можна яго падзяліць на тры групы: 1) Драматычныя творы, 2) Аповесьці й апавяданьні, 3) Дробныя вершы й пераклады.

Першай літаратурнай спробай Марцінкевічавай была двуактовая опэра „Сялянка“ ў 1846 годзе, музыку да каторай напісаў С. Манюшка. Напісана опэра вершам і прозаю. Паны пераважна гутараць папольску, а войт Навум, Ціт, хор сялян ды іншыя дзеючыя асобы пабеларуску. Гутарка чыста народная, даволі прыгожая ў зваротах. Галоўная дзеючая асоба, Войт Навум, у сваіх монолёгах ужывае надзвы-

*) Гл. проф. У. Ігнатоўскі „Гісторыя Беларусі ў XIX і пач. XX в.“ Менск. 1925 стар. 153.

чайна многа народных прыказак; так што, паводле прыраўнаньня проф. Карскага, прыпамінае Донкіхотаўскага Санчу.

Ідэя гэтае опэры досыць добра выяўлена словамі паненкі-шляхцянкі Юлькі, пераапранутае ў сялянскую вопратку. Вось-жа ў сваім звароце да паноў, легкаважучых сялянскімі дзяўчатамі яна кажа: „Бог усіх зароўна ўважае, як паноў так і сялян і той у яго ёсьць абраны, хто любіць сваіх блізкіх так, як самога сябе“. У зьмесьце сваім опэра мае падклад романтычны. Па зьяўленьні ў сьвет „Сялянка“ была дужа папулярнай і гулялася ў 1852, 1853, 1855 годзе ўсьцяж на Менскай сцэне. Ролю Навума спаўняў сам аўтар, адкуль і пачаў ужываць свой псэўдонім — Навум Прыгаворка. Цяпер „Сялянка“ прадстаўляе бібліографічную рэдкасьць, бо навет такая бязьвінная кніжка аказалася ў лічбе забароненых. Ноты часткай таксама загінулі.*)

Зусім нядаўна ўдалося шырэй азнаёміцца беларускаму грамадзянству і з аднаактовай комэдыяй „Пінская Шляхта“, напісанай у 1866 годзе а надрукаванай толькі у 1918 годзе.

Гэтая комэдыя — абраз жыцьця дробнай беларускай шляхты Палесься, з яе недалекай ідэёлёгіяй, якая зводзіцца да сварак, звадак, калатні, навет суду, але нарэсьце ўціхае й аддаецца бясклопатнаму вясельлю. У гэтай комэдыі аўтар дае нам магчымасьць прыпомнець сабе ўсю тагачасную хванабэрыстасьць, пусты „гонар“, якога яшчэ й дагэтуль трымаецца дробная шляхта ў Беларусі. У вапісаньні шляхоцкага жыцьця да веламае меры Марцінкевіч прыпамінае „Пінскай шляхтай“ асобныя малюнкі з „Пана Тадэуша“ — Міцкевічавага. Нямала іроні выказана тут і ў намаляваньню суду расейскага з яго валакіцтвам і хабарніцтвам. Сваім зьместам комэдыя дужа цікавая й арыгінальная ў беларускай літаратуры. Апрача драбязьліваcьці ў будным жыцьці шляхты мы бачым яе і бязыдэйнасьць. Даволі абазваць адзін аднаго ня шляхцічам, каб нарабіць клопату ня толькі сабе, але ўцягнуць у звaду цэлыя ваколіцы.

Зьмест комэдыі пабудаваны на падкладзе ізноў-жа романтычным. Дзеці двух сварачыхся між сабою шляхоцкіх сем'яў (Пратасавіцкія й Цюхай-Ліпскія) кахаюцца, але дзеля звады бацькоў ня могуць дастаць згоду на вясельле. Падкуплянае каханкамі судовае начальства справу канчае „пахрысьцянску“, а разам і вясельлем, на каторым гуляе суд і ўся шляхта. Аўтар умела зацеміў драбязьлівасьць шляхты хоцьбы і з таго прыкладу, што ў толькі што наладжанай справе „пахрысьцянску“ завязуецца новая валакіта-справа. З усяго гэтага карыстаюць розныя „малайцы“, каб падгуляць. У комэдыі нямала сьпеваў і скокаў.

*) Экзэмпляр „Сялянкі“ пераховуецца ў біблётэцы беларускага музэю І. Луцкевіча ў Вільні, але дагэтуль нявыдана другім выданьнем. Менскі Інбелкульт зьбіраўся да дню ўгодкаў перавыдаць.

Комэдыя „Залёты“ складаецца з 3-ох дзеяў і падобная да папярэдняй. Напісана ў 1870 г., але выйшла з друку ў 1918 годзе. Да сучаснае сцэны прытарнавана Я. Лёсікам, а музыка напісана композытаркай Кімонціхай. І ў гэтай комэдыі-опэрэтцы не абыходзіцца без романтычнай завязкі, якая праглядае амаль ува ўсіх творах Марцінкевічавых. Думка ў „Залётах“ ужо значна глыбейшая за пярэднія комэдыі. Апрача сэнтэмэнтальных пачуцьцёў, каторым аўтар аддаў наагул вялікую дань, выяўляецца агіднае зьявішча соцыяльнага характару. Яно крыецца ў тым, што паны па сваёй ідэёлёгіі не маглі пераносіць тых, хто выходзіў з нізоў сялянскае гушчы (у дадзеным прыпадку Сабковіч) і багацеў на мужыцкай працы таксама як і паны. Псыхолёгія панская ў гэтай комэдыі, як адбітак пражытых часоў, служыць сумным гістарычным успамінам, калі, як кажа Гарэцкі, „людзі думалі й верылі, што ў адных станоў белая косьць у целе, а ў другіх чорная“.

Есьць дадзеныя некаторыя й на тое, што Марцінкевіч напісаў і іншыя тэатральныя рэчы як: інсцэнізацыю свае ўласнае аповесьці „Гапон“ пад загалоўкам „Пабор Рэкруцкі“. Напісана „Вайна Сялянаў“, „Цудовая вада“ ды інш.*). Нажаль рукапісы зазначаных твораў незахаваліся. З тых камэдыяў, што дайшлі, можна бачыць у зьмесьце і літаратурнай форме размавітасьць, лягчыню ў напісаньні і ўмеласьць у перадачы абразоў тагачаснага жыцьця беларускага сялянства й шляхты. Заслуга Марцінкевічава, як першага нашага драматурга ў адраджэньні тэатру, бяспрэчна вялікая. І справядліва яго называюць „Бацькам Беларускае Комэдыі“.

Повесьці й апавяданьні маюць характар наўперад этнографічны, хоць да некаторае меры праглядае элемэнт ідэйна-нацыянальны й гісторычны. Спроба звароту Марцінкевіча да адшукаваньня гістарычных матываў беларускага жыцьця нічым асаблівым не адзначылася. Аўтар не разьвіў свайго творства ў гэтым кірунку, хоць-жа багацьце тагачаснае народнае фантазыі адзначалася вялікаю яскравасьцяй і сьвежасьцяй. У некаторых мамэнтах падаваныя гістарычныя факты не адпавядаюць запраўднасьці, бо Марцінкевіч шмат фантазуе й дапушчае анахронізмы:

Першая аповесьць Марцінкевічава „Гапон“ зьявілася ў друку ў 1855 годзе. Складаецца з 4-ох песьняў і мае ілюстрацыі. Некалькі разоў аповесьць перадрукавалася па розных выданьнях у поўным і скарочаным выглядзе. Верш сылябічны. Зьмест аповесьці гэткі. Дзяцюк Гапон кахае дзяўчыну Кацярынку, але панскі аканом завідуе і здае яго ў войска. Гапон выслужуецца ў ахвіцэры. Кацярынка скардзіцца за зьдзекі аканома сваёй пані, якая праганяе яго із

*) Гл. Фр. Аляхновіч: „Беларускі тэатр“ Вільня. 1924.

службы. Пры браньню ў рэкруты аканом лучае да Гапона, кагоры, ня гледзячы на розныя аканомавы выкруты, і здае яго ў маскалі. Гапон варочаецца дамоў і жэніцца із сваёй Кацярынай. Адбываецца вясельле.

Дыдактызм выяўлены ў тым, што зло выкрываецца, а праўда перамагае; што ўсё зло не ад паноў, а ад благіх аканомаў, бо паны жадаюць дабра сваім сялянам.

Праглядае нацыянальная рыска хоць-бы й у тым, што Гапон і Кацярынка ведаюць чужыя мовы „панскія“, але гутарацць „папросту“ (пабеларуску). Аповесьць напісана абразова. Дзеля прыкладу вось адрывак з першае песьні: сцэна ў карчме:

Шум, крык, гоман у карчме,
Кіпіць сельская дружына,
Піва мёд гарэлку п‘е,
Ажно круціцца чупрына.

Гаспадары за сталом
Громка гутарку вядуць,
А ляндарка з ляндаром
Мёд гарэлку раздаюць.

Хлопцы, дзеўкі, маладзіцы
Ля парога гаманяць,
А старыя чараўніцы
Цішком ля печы сядзяць.

Ананія ў йскрыпку грае
„Лявоніху“ то „бычка“,
Гапон жару паддавае:
„Заграй—крычыць—„казачка“!...

За „Гапонам“ у 1855 годзе выходзяць „Вечарніцы“, г. зн. гутаркі старога дзеда Ананьні да моладзі. Складаюцца „Вечарніцы“ з дзьвюх частак. У першай частцы Ананьня апавядае здарэньне з „дурным Зьмітрам“ селянінам аб тым, як ён, прадаўшы цяля зя пяцірублёўку, купляе селядзца і разам з ім зьядае грашовую паперку. Гэты жарт, зусім магчыма, сьпісаны з Менскага кірмашу, нічога надзвычайнага не прадстаўляе. Характэрнае ёсьць апісаньне тагачаснага Менску, аб якім вось як піша Марцінкевіч:

Мо‘ й праўда, дзеткі, што ў Слуцку,
Кажуць, усё не палюдзку;
А у Воршы—яшчэ горшы!
Толькі тым, маўляў, людзі злыя грэшуць,
Што на Менск наш вельмі брэшуць.
Няма як Менск наш!—дзетачкі міленькі!
Прыгожы, відны, кругом весяленькі;
Ні аднэй мізэрнай ня сустрэнеш хаты,

Вось, маўляў, сьнег белы, каменны палаты;
Пасярэдзіне ўецца круглай стружкай
Сьвіслач-рэчка—зялёнай істужкай;
Вось няўрокам—горад хоць куды!

Другую частку „Вечарніцаў“ складае бытавы абраз народнага сьвяткаваньня „Стаўроўскіх Дзядоў“. Апрача бытавых малюнкаў бачым імкненьне паглыбіцца ў гісторыю Беларусі, на падставе народных паданьняў. Аўтар падае легендарнае апавяданьне аб некалі слаўным жыцьці крывіцкіх (беларускіх) князёў (у дадзеным прыпадку аб князі Грамабою) і гэткім парадкам прычыняецца да нацыянальнага ўсьведамленьня. Ідэя твору, як і ў „Гапоне“, у тым, што заўсёды зло караецца, а праўда перамагае.

У захопленьні беларускаю мітолёгіяй і народнымі, наагул, матывамі, Марцінкевіч у 1856 годзе піша й друкуе аповесьць з народнага нацыянальнага жыцьця - сьвяткаваньня—„Купалу“, у каторым паказаў народныя традыцыі, гульні й сьпевы. Аднак тло аповесьці прыпамінае Богушэвіча з тымі соцыяльнымі ўзаемоадносінамі, што існавалі між сялянствам і панствам. Зьмест гэткі. Сялянка Агата й паніч кахаюцца. Аднак шляхоцкая амбіцыя не дазваляе яму пабрацца з дзяўчынаю простага паходжаньня і паніч адпіхае яе ад сабе. Дзяўчына-ж не бязвольна адступае, а з пагардай і поўнай агіднасьцяй да такога ўчынку панічовага кажа: „А мяне-ж ня будуць свае выракацца, бацькі праклінаці, суседзі цурацца, што з панічом стану ў сораме жыць? Вам ня грэх мужычкаў на чэсьці забіць, бо мужык нягодны, ня Боская справа? Усяк зьдзекавацца над ім мае права!“.

Гэты адказ не такі ўжо бязвольны як у „Сялянцы“ і характарызуе даволі адважнасьць беларускае дзяўчыны.

Апошняя з аповесьцяў, што дайшлі да нас—„Шчароўскія Дажынкі“ напісана у 1857 годзе. Складаецца з пролёгу і двох абразоў. Аповесьць багата этнографічным матар'ялам, а матыў зьместу пазычаны з іншых літаратураў.

Першы абраз прадстаўляе варажбу; выбар працавітае дзяўчыны дзеля падносу дажынкавага вянка свайму гаспадару. Другі малюнак—дажынкі, на якіх загуляў сам аўтар з моладзяй, што й зазначае ў канцы.

Мноства ежы на дажынках робіць малюнак проста ідылічным.

З галоўных рысаў у Марцінкевічавых аповесьцях і апавяданьнях спакмячаем адбіцьцё часоў сялянскага прыгону. Ен малюе абразы беларускага народнага жыцьця з усімі дэталямі, што пацьвярджаецца пры прыраўнаньні з этнографічнымі зборнікамі таго часу.

Рэшта твораў, што складаюцца з перакладу „Пана Тадэуша“—Адама Міцкевіча, дробных павіншавальных вершаў

на чэсьць сваіх знаёмых і асабліва характэрнага, рэвалюцыйнага зьместам, вершу „Вясна, голад перапала“, галоўна служыць дзеля характарыстыкі пісьменьніка як асобы. З іх мы пераважна даведуемся аб тэй нацыянальнай сьвядомасьці, якую крытыкі нашыя баяліся ў ім прызнаць дагэтуль.

Павіншавальныя вершы маюць пераважна інтымны характар і асаблівага значэньня ў літаратуры ня маюць, хіба толькі за выняткам вершу пасьвячанага на чэсьць прыезду ў Менск „дудароў беларускае зямлі“: А. Контскага, І. Сыракомлі й Манюшкі. Тут выказуецца славянафільская думка, што зьявілася пад павевамі панславізму ў Чэхаў (Даброўскі, Палацкі ды інш.). Ен піша:

„Злосна вам, сыны заморскія, панята,
Што славянская зямелька у розум багата;
Вы-б хацелі ўсе розумы і свае і нашы,
Маўляў саранча на ніве, паесьці у кашы,
Не дажданьня-ж мудрагэлі!—і нашая ніва
Вялікімі дударамі здаволь шчасьліва“.

„Вясна, голад перапала“... Цікава сваімі контрастамі агульным матывам творства Марцінкевічавага. Гэты рэвалюцыйны верш напісаны ў 1860 годзе, на пярэдадні скасаваньня прыгону і выклікаў сумлеў што да аўтарства Марцінкевічавага. Справа ў тым, што верш у рукапісу хоць і быў напісаны яго пісьмом, але ня быў падпісаны; быццам, тэхніка вершу не ўласьціва Марцінкевічу і гэткія матывы яскрава соцыяльнага зьместу абсалютна неўласьцівы пісьменьніку. Найляпей могуць характарызаваць яго напр. гэткія адрыўкі:

„Вясна, голад перапала,
Ані солі, ані круп
І скаціне корму мала,
І самому ані ў зуб.
На палацях дохнуць дзеці,
Жонка тры дні з дуру п'ець,
І даўно парожна ў клеці“...

У канцы кажа:

„Будзем роўныя з панамі
І таксама як паны
Піць гарэліцу збанамі
І гуляць так як яны“...

Як бачым, верш ізноў-жа зусім блізка прыпамінае сабою творства Багушэвічава, каторы найвыразьней за іншых беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў намаляваў цяжкія соцыяльныя варункі жыцьця нашага сялянства. Цяпер гэты

верш бяссумлеву прызнаны за Марцінкевічам. Як ніяк ён быў інтэлігент з вялікім нахінам да народніцтва, назіральнік злыдняў, што ад прыгону бярэмем клаліся на сялянства. Дык зусім прыродна, ён ня мог моўчкі прайсьці і міма тых несправядлівасьцяў соцыяльнага жыцьця, пад уражаньням якіх быў напісаны гэты верш. У некаторай меры памагаў тут агульны настрой аб волі сялянства скасаваньнем прыгону. Трэба думаць, што гэты верш адзін з тае значнае лічбы загінулых Марцінкевічавых твораў, з выразнымі соцыяльнымі мотывамі.

Пераклад „Пана Тадэуша" быў зроблены ў 1859 годзе і выдрукаваны „на грошы, што шмат людзёў зложыла, а паміж імі і мужычкі", як кажа перакладчык у прадмове. Да нас дайшлі толькі дзьве першыя „быліцы". Першае выданьне ёсьць вялікая бібліографічная рэдкасьць, бо навет такі бязьвінны беларускі пераклад быў не да ўспадобы расейскай цэнзуры і канфіскаваны.

У сучасны мамэнт, пры развою нашае мовы, мо' гэты пераклад і не даволі добры, але як першая спроба перакладу на занядбаную дагэнуль беларускую мову, нязвычайна ўдалая. Перакладчык перамог усе труднасьці ўзложанага на сябе заданьня. Гэтым ён робіць значны пасступ у нашым літаратурным адраджэньні. Вось пераклад уступу:

Літва!*)—родна зямелька! Ты, маўляў, здароўе,
Той Цябе ашанцуе, каму безгалоўе,—
Хто жыў калісь на ніўцы Тваёй, як у раі,
І вось крывавы роніць сьлёзкі ў чужым краі!
Цяпер-жа, як Ты красна, я чую, я бачу,—
І апішу, бо горка ўсьцяж па Табе плачу!
Ты Панна, што сьцеражэш яснай Чанстаховы,
Што сьвеціш у Вострай Браме, што горад замковы
Наваградзкі бароніш, яго народ жылы,
Як мяне Ты падняла, маўляў, із магілы
(Вось Цябе бедна маці ў вачох са сьлязінай
Маліла, каб апеку мела над дзяцінай,—
І з немачы падняўся,—і пайшоў ў дарогу,
Каб у Тваіх касьцёлах падзякаваць Богу),
Так нас дзівам павернеш у зямельку родну.—
Пакуль-жа блісьне шчасьце, хоць душу нягодну
Зьвярні да гор лясістых,—шырокіх пракосаў,
Да ніў родных, калосьсям ярка маляваных,
Залочаных пшаніцай, жытам пасрабраных,
Гдзе жоўтая сьвірэпка, дзе грэчка беленька,
Гдзе дзяціліна гарыць, вось красна паненка,
А ўсё мяжой прыбіта, бачыцца устужкай,
Там сям быццам к адзежцы прышпілена грушкай".

*) Літвой, як гэта даўней было звычайна, тут завецца Беларусь.

Ня меншую ўвагу за пераклад зварочуе прадмова да яго. Марцінкевіч піша аб тэй насьпелай патрэбе, што востра адчувалася ў маладой беларускай літаратуры:

„Чаму-ж, думаю, наш народ просты... чаму-ж дробная акалічная шляхта, што, жывучы ў лясным зацішы, у хаце, між сабою, сваей роднай ужывае мовы—чаму-ж яна ня мае пазнаць абычаёў сваіх бацькоў?

„Вось гэта ўсё і нагнала мне думку пералажыць „Пана Тадэуша“ на беларускую мову.

„Праца мая ў гэтай мове, што мела заахвоціць нашага беларускага мужыка і бедную шляхту да навукі, можна сказаць, зусім ня сустрэла прыяцелеў. І не знайшла яна прыяцелеў сярод тых багатых людзей нашае старонкі, што паводле Бога й сумленьня павінны-б памагчы адкрыць цёмнаму народу вочы. І вось я сягодня ахвярую „Пана Тадэуша“ прыбранага ў мужыцкую сярмягу, паном і простаму народу з-над Дзьвіны, Дняпра, Бярэзіны, Сьвіслачы, Вяльлі і Нёмна. Можа народ той просты, што з маткай-прыродай блізка жыве, прыме гэты гасьцінец ад свайго дудара, што апошнія мінуты свайго жыцьця на карысьць народу аддае“.

Ужо з гэтага адрыўку з прадмовы мы бачым у Марцінкевіча нацыянальную сьвядомасьць беларускую, бачым якой любасьцяй і шчырасьцяй да ўсяго роднага беларускага пыша ў пісьменьніку ў яго імкненьні выйсьці на сустрэчу ў падняцьці простага люду. Гэтае-ж выяўленьне нацыянальнага „я“ выказана яшчэ ў прыватным лісьце Марцінкевічавым да знаёмага польскага пісьменьніка Крашэўскага.*) Ліст гэты нядаўна быў выкрыты ў „Газэце Польскай“. Вось што адзначае аб сабе пісьменьнік: „Жывучы сярод народу, які гаворыць беларускаю гутаркай, зьвязаны целам і душою з яго спосабам думак, думаючы аб лепшай долі гэтага братняга народу, што застыў у дзяцінстве і цямноце, пастанавіў я, каб заахвоціць яго да асьветы, у духу яго звычаяў, паданьняў-легенд і здольнасьці душэўнай, пісаць у яго роднай мове, і вось з радасьцяй я хутка ўгледзіў, што выданыя мною „Сялянку“, „Гапона“, „Дудара“, „Купалу“ народ прыняў з вялізарным упадабаньнем, а моладзь з запалам пачала вучыцца чытаць, з памяці паўтараць мае, гэтак для яе мілыя, творы. З гэтае прычыны пашыраецца ўжо цяпер у часьці над Вяльлёй і Нёмнам, над Сьвіслачай, Бярэзінай, Дзьвіной, Дняпром і г. д. чытаньне беларускага друку, а калі ўжо ахвота й любоў да духовае стравы разбуджаны, знойдуцца з часам багатшыя матар'ялы ў роднай мове... Гэтую маю думку і імкненьне зразумелі й ацанілі людзі ў Польшчы, не зразумелі ў Літве і на Беларусі... Няшчасная прошласьць давяла сялянскі народ да

*) гл. „Gazeta Polska“ 1861 г. 111 ст., гл. зборнік „Заходняя Беларусь“ 1924 г. Вільня: „Нацыянальнасьць у творчасьці В. Дунін-Марцінкевіча“.

ўпадку, ня думаючы зусім аб духовай і моральнай адукацыі, хаця-б дзеля памяці на тое, што гэта дзеткі аднае маткі (славянскае—М. І.), што гэта пакрыўджаныя браты й хрысьцяне, каторыя маюць права да навукі ў роднай мове так, як да нябеснага хлеба... Пастанавіў я творамі ў роднай мове, адпаведнымі яго разуменьням, што знаходзяцца яшчэ ў калысцы, і палягчаючымі яму спосабам асьвячэньня з граматай, заахвоціць яго да роднага слова, да асьветы і маральна паправіць. Які вызваляючы збаўчы ўплыў аказалі гэтыя мае кніжкі на яго, трэба вывесьці з таго, што кніжкі ў народнай мове ўжо зусім разышліся, а новыя ня друкуюцца".

Ясным і зразумелым стане пасьля гэтага несправядлівасьць абвінавачаваньня Марцінкевіча ў нацыянальнай маласьвядомасьці. З прадмовы да „Пана Тадэуша", а таксама із зазначанага вышэй ліста, хоць ёсьць у іх, што праўда, шмат недаказанага ў думках, яскрава відаць беларускае аблічча; відаць імкненьне да падняцьця дабрабыту нашага народу нацыянальным усьведамленьнем. Гэткім парадкам узіраючыся наагул на дзейнасьць Марцінкевічаву, мы, быццам, у ягоных гэроях, не спакмячаем тых цёмных бачынак тагачаснага жыцьця беларускага сялянства. Навет увесь цяжар прыгону, які бярэмем клаўся на сялянства, не выглядае страшным. З творства Марцінкевічавага астаецца ўражаньне малюнкаў бясклопатнага вясельля, скокаў і сьпеваў. Прарываючыяся калі-некалі пачуцьці сацыяльнае несправядлівасьці ў гэтым агульным жыцьцярадасным тоне ак-бы сьціраюцца.

Праўда, Марцінкевіч, ідучы, як народнік-шляхціч, на сустрэчу сярмяжнаму люду, спушчаецца пры помачы беларускае кніжкі ў сялянскую хату; бае песьні, казкі, цікавячы й разьвіваючы любоў у цёмных масаў да ўсяго роднага беларускага. Ен рабіў гэткім парадкам будзённую працу нацыянальнага ўсьведамленьня - абуджэньня, якую рабіць вымагаў час. Марцінкевіч сваёй працай стрымаў значна той шалёны бег асыміляцыі нашага народу непрыяцельмі, што вялася ўсялякімі мэтодамі: наўперад праз каталіцтва да полёнізаваньня і праз праваслаўе да маскаленьня. А гэтая праца асыміляцыі вялася, як сам аўтар зазначае, шпаркім тэмпам. Палякі закладалі патайныя прыпынкі дзеля вышменаваных мэтаў, а дзеля таго Марцінкевіч заклікаў адчыняць аналёгічныя прыпынкі беларускія і інш. Вось-жа за ўсе свае шчырыя жаданьні ня раз Марцінкевіч у сваім хатнім жыцьці цярпеў крыўды і ад польскага грамадзянства і ад расейскага ўраду. Толькі нязначная група беларускіх інтэлігентаў як Вярыга-Дарэўскі, Каратынскі ды інш. падзялялі ягоныя думкі. Слова „Мураўёўшчына" найляпей характарызуе час расейскае рэакцыі, каторы пераживаў пісьменьнік. Тым трудней было працаваць на грунце беларускім, калі ў 1864 годзе быў афіцыяльна забаронены друк у нашай мове.

Тэхніка вершу Марцінкевічавага (сылябічны) слабая, сустракаецца ня мала шурпатасьці, але ўся загана сьціраецца, калі прадставім сабе Марцінкевіча першым, у запраўдным значэньні гэтага слова, беларускім літаратурна-адраджэнскім пісьменьнікам. Мо' творства ягонае цяпер ужо крыху й асталае, але для многіх ня згубіла зусім цікавасьці.*) Яно ня ёсьць скарбніцай духовай істравы, гэта бярждкэй гістарычны матар'ял літаратурнага архіву. Аўтар „Гапона", „Вечарніцаў" і інш. не абмыліўся, калі пісаў: „Калі ахвота й любоў да духовае стравы разбуджана, знойдуцца з часам багатшыя матар'ялы ў роднай мове"... Прадчуцьцё збылося. Мы ўжо матар'ялы гэтыя маем. Праўда, не ў такой меры, якую патрабавалі-б, але з гонарам заяўляем— маем! Нашыя сучасныя павадыры-ідэолёгі выйшлі з тае беларускае нівы, якую яшчэ зусім ня так даўно засяваў Марцінкевіч. Вось чаму ён, як першы запраўдны беларускі пісьменьнік, пачаўшы выяўленьне праяваў беларускага жыцьця, народных думак і жаданьняў у прыгожай беларускай пісьменнасьці; як Бацька беларускае комэдыі, будзе доўга жыць сярод шчырых беларускіх душаў і вечна на старонках нашае гісторыі культурна-нацыянальнага адраджэньня.

---

АНТ. НАВІНА.

# Роля моладзі ў пачатках адраджэнскага руху.**)

Ува ўсіх народных рухах—ці то сацыяльных, ці палітычных, ці нацыянальных,—авангардам грамадзянства зьяўлялася, зьяўляецца і пэўне-ж заўсёды будзе зьяўляцца **моладзь.**

Гэта ўжо ляжыць у самай прыродзе моладзі: яна— больш, чым хто, адзыўчывая на ўсялякае гора, усялякую крыўду, усялякі зьдзек; яна мае ў сабе вялізарны запас нявыкарыстаных яшчэ сілаў: яна найбольш здольна захоплівацца вялікімі людзкімі ідэаламі і аддавацца ідэі **да канца**— без якіх-колечы сваекарысных меркаваньняў, бяз ніякіх кампромісаў з сваім сумленьнем. Моладзь, паколькі яна ад раньніх год не захоплена кар'ерызмам, заўсёды і ўсюды першая кідалася ў вір барацьбы за волю народаў, за вызваленьне працоўных з путаў сацыяльнае няволі.

---

*) прыр. Ант. Навіна ў газэце „Беларуская Доля" № 15 1925 г. ў ст. „В. Дунін-Марцінкевіч".

**) Аўтар гэтае стацьці абмежыўся пэрыёдам да выбуху сусьветнае вайны і не зачапляе студэнцкага руху апошніх гадоў па вайне.—Рэд.

Тое-ж мы бачым і ў беларускім руху. І тут сярод пачынальнікаў нашага Адраджэньня бачым прадстаўнікоў моладзі. І тут яна адыграла сваю ролю — ролю **авангарду масавага руху**, якім рух беларускі зьяўляецца сягоньня.

Паадзінокія спробы ўзнавіць колішняе беларускае пісьменства, якія сустракаем на працягу ўсяго XIX сталецьця, гэта-ж дзела рук перадусім моладзі. У **дзяцюцкія гады** свае пачаў пісаць беларускія вершы Ян Баршчэўскі. На **студэнцкія гады** прыпадаюць і першыя вершыкі Яна Чачота, пісаныя пабеларуску і — як наказуе традыцыя — папраўляныя **студэнтам-жа** Адамам Міцкевічам. А калі паў прыгон, і з вёскі пачалася цяга моладзі ў места — за навукай, калі сыны сялянскія першы раз пераступілі парогі вышэйшых школаў, — дык сярод іх ізноў-жа беларуская ідэя знаходзе сваіх вызнаўцаў, знаходзе барацьбітоў за волю народную.

Сярод гуртка народавольцаў, якія ў 1884 годзе распачалі былі выдаваць у Менску нелегальную гэктаграфаваную часопісь „**Гомон**“ (у расейскай мове), былі якраз прадстаўнікі моладзі: аб гэтым сьведчыць дзейны ўчасьнік народавольчаскае арганізацыі ў Менску бацька нашага поэты Багдановіча, у сваіх пісьмах да аўтара гэтых радкоў. У № 2 таго-ж „Гомана“ выразна кажацца аб існаваньні ў гэным часе ўжо **цэлага раду беларускіх студэнцкіх арганізацыяў**. З моладзі — **студэнтаў** — зложыўся быў і той беларускі гурток у Маскве, аб якім у сваіх „Успамінах“ піша Антон Лявіцкі, ды які выдаў беларускі пераклад „Сыгналу“ Усевалада Гаршына ў 1891 годзе. Пэўне-ж у **студэнцкія** гады вызначыўся і беларускі шлях праф. Даўнара-Запольскага, які так шмат зрабіў дзеля беларускае гісторыі.

Калі падыйдзем да апошняга пэрыяду ў беларускім адраджэнскім руху, які на нашых вачох — за апошнія 25 гадоў — так буйна расьцьвіў і даў такія багатыя вынікі, — дык і тут галоўную ролю грае студэнцкая моладзь. Пачынальнікі гэтага руху, браты Луцкевічы, распачалі сваю працу яшчэ **на вучнёўскай лаве**, як вучні менскае гімназыі. Каля іх у самым пачатку дзевяцісотных гадоў гуртуюцца ўжо і Карусь Каганец (Казімер Кастравіцкі), і рад **вучняў ды вучаніц**, якія пасьля выйшлі на актыўных працаўнікоў на беларускай ніве.

У 1902 годзе ў Пецярбурзе творыцца „Кружок Беларускае Народнае Асьветы“, ладжаны тымі-ж Луцкевічамі і Вацлавам Іваноўскім. Першую адозву да грамадзянства з заклікамі распачаць асьветную работу сярод беларускага сялянства — **у роднай мове** апошняга — укладае і выдае тая-ж група **студэнтаў** пецярбурскіх вышэйшых школаў, якая заклала сказаны „Кружок“. Першыя ахвяры грашмі на гэту справу зьбіраюцца ізноў-жа сярод гэнае самае моладзі, ды з гэных дробных складак творыцца зачатак выдавецкага фонду, які фінансаваў выданьне „Вязанкі“ Янкі Лучыны.

У першых студэнцкіх арганізацыях, з якіх бярэ пачатак уся сучасная беларуская культурна-асьветная і палітычная работа, прымалі ўчасьце пераважна менчукі, якія яшчэ да выезду ў Пецярбург праходзілі свайго роду школу беларускасьці ў закладзеным у Менску Луцкевічамі беларускім гуртку, ды віленцы, зьвязаныя з рухам пераважна праз асобу Іваноўскага. Адначасна пачынальнікі беларускае працы зрабілі рашучы штурм на так-званыя **„зямляцтвы“**, ці згуртаваньні студэнцкае моладзі паводле губэрняў, з якіх яна паходзіла. Зямляцтвы гэныя мелі пераважна чыста расейскі характар. Тут гуртаваліся бадай выключна праваслаўныя беларусы, пад той час, як каталікі аставаліся пад кіраўніцтвам польскіх установаў. Але пад націскам адраджэнцаў пачаўся фэрмэнт і сярод адных, і сярод другіх. На беларускім грунце пачалі разам схадзіцца студэнты праваслаўныя й каталікі, каторыя яшчэ ўчора бачылі ў сабе ўзаемна „маскалёў“ ды „ляхаў“.

Думкі аб шырокай культурна-асьветнай працы сярод беларускага сялянства ды ў беларускай мове сустрэлі на сваім шляху надта вялікія перашкоды. Краёвая інтэлігенцыя, да якое зварачаліся з сваімі адозвамі першыя адраджэнцы, аставалася глухой на ўсе іхнія заклікі: праваслаўныя лічылі сябе расейцамі і йшлі па лініі найменшага апору—у кірунку абмаскоўленьня краю; каталікі-ж уважалі сябе за палякоў і ўсе свае сілы аддавалі вельмі папулярнай у той час барацьбе польшчыны з маскоўшчынай—у імя „гістарычных правоў“ Польшчы на Беларускай зямлі... Да таго-ж уся гэная інтэлігенцыя складалася пераважна або з урадоўцаў, або з абшарнікаў, якія з увагі на сваё сацыяльнае становішча ня лішне прыхільна глядзелі на „эманцыпацыю хлопства“. Дык вось больш жывыя элемэнты спасярод моладзі шукаюць новых шляхоў дзеля свае працы і знаходзяць іх на грунце самаарганізацыі масаў і барацьбы з панаваўшым у Расеі дзяржаўным ладам дый з польскім абшарніцтвам у Беларусі. І калі ў 1903 годзе заклалася Беларуская Рэвалюцыйная Грамада, у лічбе закладчыкаў яе бачым ізноў тых-жа прадстаўнікоў **студэнцкае моладзі**. Моладзь дае імпульс да працы, і каля першых барацьбітоў за волю працоўнае Беларусі гуртуюцца і прадстаўнікі сялянства, і работнікі мест.

З Пецярбурга беларускі рух сярод студэнцкае моладзі перакідаецца ў другія ўнівэрсытэцкія месты Расеі (Дорпат, Варшаву, Маскву, Пулавы) і заграніцу (Кракоў, Табор), але найвялікшыя згуртаваньні нацыянальна сьвядомае беларускае моладзі бачым у Дорпаце (Юр'еве) ды ў Варшаве. Вось-жа трэба выясьніць тую прычыну, дзеля якое рух беларускі шырыўся сярод студэнцтва іменна гэных двух местаў.

Справа ў тым, што расейскі ўрад дазволіў прымаць у ўнівэрсытэт гадунцоў праваслаўных духоўных сэмінарыяў—наўперад у Дорпат і Варшаву, пад той час, як у іншыя ўнівэрсытэты доступ для былых сэмінарыстаў быў яшчэ доўгі час зусім зачынены. А як раз сярод вучняў праваслаўных духоўных сэмінарыяў рух беларускі знайшоў гарачы водклік. У Менску ў 80-ых гадох мінулага сталецьця працаваў пад беларускім сьцягам вучань дух. сэмінары Чаховіч, які здаволяваў сэмінарскую моладзь народавольскай літаратурай. У 1905 годзе сярод віленскіх сэмінарыстаў працавала Цётка (Кейрысовая). У 1906—7 гадох распачалі тут работу і браты Луцкевічы, якія прабраліся ў Вільню з Менску. Монтвіллаўскі парк быў галоўным месцам сустрэч з сэмінарыстамі. Луцкевічы пранікалі патайна ў самыя Базыльянскія муры, робячы тамака зборкі сэмінарыстаў і чытаючы ім лекцыі й рэфэраты аб беларускай справе. А вынікам усяе гэтае працы было тое, што ў працягу трох гадоў—1905, 6 і 7 толькі, здаецца, адзін спаміж скончыўшых сэмінарыю пайшоў на папа: рэшта ўсе йшлі ў вышэйшыя школы, ды кіраваліся па пратаптанай дарозе найбольш у Дорпат і Варшаву. Дык лёгка зразумець, што іменна ў гэтых унівэрсытэцкіх местах і разьвіваўся адраджэнскі рух сярод студэнтаў-беларусаў.

Ведама, у Пецярбурзе рух быў найвялікшы. Тут моладзь ад 1906 году праходзіла школу культурнае працы ў выдавецкай суполцы „Загляне сонца і ў наша ваконца“, дзе вялізарны ўплыў на яе аказаваў праф. Эпімах-Шыпілла, унівэрсытэцкі бібліатакар. Дзякуючы энэргіі Вацлава Іваноўскага, а пасьля і Цёткі, што перакачавала на нейкі час туды, студэнцкая моладзь была зарганізавана дзеля нацыянальнае працы, а сутычнасьць з беларускімі работнікамі, якіх заўсёды ў сталіцы старое Расеі было вельмі многа, памагала выпрацоўваць нашай моладзі сацыяльную ідэалёгію, згодную з ідэаламі працоўных наагул. Пры пецярбурскім унівэрсытэце па ініцыятыве студ. Аўгеня Хлебцэвіча заснаваўся быў беларускі гурток, які меў мэтай навуковае вывучэньне Беларусі. Беларускі рух перакінуўся навет у каталіцкую духоўную сэмінарыю і акадэмію, дзе выкладаў праф. Эпімах-Шыпілла, будзячы беларускую нацыянальную сьвядомасьць сярод сваіх землякоў. У 1913 годзе ў Пецярбурзе вышаў першы і на жаль адзіны нумар беларускае студэнцкае часопісі „Раніца“.

У апошнія перад вайной гады значна пашырыўся беларускі рух сярод вучняў сярэдніх школ у Менску й Вільні. У Вільні першае месца належалася сярэдняй хіміка-тэхнічнай школе, дзе рух гэты не заціхаў ад выхаду „Нашае Долі“, у якой уся тэхнічная праца пры экспэдыцыі была роблена рукамі хіміка-тэхнікаў—ведама-ж, бяз ніякае платы. У аднэй

із віленскіх гімназіяў распачаў сваю беларускую працу і такі выдатны прадстаўнік беларускага руху, як праф. Браніслаў Тарашкевіч, а ў віленскай духоўнай сэмінарыі (каталіцкай) д-р Ян Станкевіч, які, як ведама, быў за гэта выдалены з сэмінарыі і пашоў па шляху сьвецкай работы.

Гаворачы аб сярэдніх школах, нельга абмінуць руху сярод вучняў вучыцельскіх сэмінарыяў. Гэтак чатыры краёвыя сэмінарыі, у якіх пераважала беларуская сялянская моладзь (Полацкая, Маладэчанская, Сьвіслацкая і Панявежская), стварылі свой хаўрус ды навет правялі агульную забастоўку, ідучы пад беларускім нацыянальным сьцягам (прыблізна ў 1908 годзе ці каля таго). З найбольш ведамай сваім чорнасоценска-абрусіцельным духам Нясьвіскай сэмінарыі выйшаў яшчэ раней Якуб Колас. Захапіў адраджэнскі рух і некаторыя вучыцельскія інстытуты. У адным з іх—Глухаўскім (у Чарнігаўшчыне) быў закладзены беларускі гурток, якім кіраваў паэта Я. Журба.

Многа актыўных беларускіх дзеячоў вырасла спаміж гэнае моладзі, якая ў даваенныя часы, калі беларуская справа толькі-толькі пачынала станавіцца на цьвярдзейшы грунт, выявіла шмат глыбокага ідэалізму і крэпкую веру ў правільнасьць адраджэнскае ідэі. Праўда, многа і адстала: жыцьцё прымусіла шмат каго ісьці на кампрамісы з уласным сумленьнем, ды часта выракацца і свайго народу, і сваіх старых ідэяў... Але можам з поўным пераканаьнем сказаць, што беларуская моладзь, беларускае студэнцтва ў сваім часе добра заслужылася для справы беларускага нацыянальнага Адраджэньня. То-ж да прыкладу рэдакцыя „Наша Доля“ складалася вылучна з студэнтаў *). І калі гэта было магчыма ў часы, калі будучына беларускага руху яшчэ магла выклікаць у людзей сумляваньні і недаверые, калі тварцы гэтага руху не маглі яшчэ паказаць нічога рэальнага, а йшлі да масаў толькі з глыбокай верай у свой ідэал,—дык для сучаснага беларускага студэнцтва справа прадстаўляецца шмат лягчэйшай, і для яго гэных сумлеваў ужо быць ня можа: з лятуценьняў невялікае жмені ідэалістаў вырас запраўды-ж масавы народны рух да нацыянальнага і сацыяльнага вызваленьня, і гэтага руху ня здолее ўжо ніякая сіла спыніць на паўдарозе.

Вільня, ліпень 1927 г.

---

*) Пры „Радзімах“ першае беларускае легальнае часопісі „Наша Доля“, наколькі мне помніцца, былі гэткія прадстаўнікі студэнцкае моладзі: з Пецярбургв—Антон Трэпка, з Менску—Бран. Земецкі, сябры рэдакцыі: „Цётка“, Ів. і Антон Луцкевічы, Ф. Умястоўскі, група вучняў хіміка-тэхнічнае школы ў Вільні. А. Н.



Народны Дом і Беларуская Кнігарня Т-ва Беларускае Школы ў Вялейцы (павятовай).

Д-р Я. СТАНКЕВІЧ.

## Беларуская Акадэмічная Конфэрэнцыя 14.—21.XI. 1926 і яе працы дзеля рэформы беларускае абэцэды й правапісу.

(*Агульны агляд*).

У Радавай Беларусі дзеюцца вялікія здарэньні, каторыя рэхам адбіваюцца ў нас, у Беларусі Заходняй. Здарэньні гэныя бываюць як палітычнага так і культурнага характару; там творацца культурныя цэннасьці. Важна, каб беларускае грамадзянства Зах. Беларусі з гэнымі цэннасьцьмі знаёмілася, карыстала з іх і дзейна прычынялася да іх дальшага развою й пашырэньня ў сябе.

Адным з найвялікшых культурных здарэньнеў у Радавай Беларусі была летась Беларуская Акадэмічная Конфэрэнцыя ў Менску 14-21. XI. 1926. Заданьням Конфэрэнцыі была рэформа беларускае абэцэды й правапісу. Але апрача гэтага .конкрэтнага заданьня было імкненьне—зрабіць ацэну дагэтулешняе культурнае працы беларускае і выткнуць ёй дальшыя дарогі. Імкненьне гэтае найляпей магло быць рэалізавана на конфэрэнцыі языковай, бо нішто так не прычыняецца да культурнага развою як язык, мова. Разьвіваючы думку найпрымітыўнейшага чалавека й дзіцяці, мова таксама служа найлепшым пашыцелям культуры ў цэлым народзе, а слоўныя мастацтвы—славеснасьць і літаратура—ёсьць найвышшай і найхарошшай галіною культуры кожнага народу.

Ведама, што да гэтых высокіх мэтаў Конфэрэнцыі ня мог не прылучыцца сьвяточны настрой ейных учасьнікаў і не магла яна ня стацца аднгачасна культурным сьвятам беларускім. Гэтую сьвяточнасьць разумелі і запрошаныя на Конфэрэнцыю чужнікі і выказавалі гэта ў сваіх прывітальных прамовах.

Інстытут Беларускае Культуры запрасіў на Конфэрэнцыі як Беларусаў, так і чужнікоў-філёлёгаў з Украіны, Расеі, Літвы, Лацьвіі, Нямеччыны, Чэхаславаччыны і інш. З Беларусаў на Конфэрэнцыю былі запрошаны ня толькі філёлёгі й беларусаведы, але й тыя, што сваёй культурнай працаю прычыняюцца да таго ці іншага развою й пашырэньня беларускае літаратурнае мовы. Гэткі склад Конфэрэнцыі хоць з аднаго боку й перашкаджаў напару ёй у працы, але, з другога боку, забясьпечаваў рэалізацыю прынятых пастановаў. На Конфэрэнцыі было ўсяго 69 сяброў. Нажаль, ня было на ёй прадстаўнікоў Заходняе Беларусі, бо ўсе яны, апрача аднаго, не дасталі пашпартаў ад польскае ўлады. Конфэрэнцыя выказала сваё абурэньне проці гэтага

ў аднагалосна прынятай рэзалюцыі-протэсьце (друкавалася ў свой час у беларускіх газэтах).

Інстытут Беларускае Культуры ў Менску ўсе працы Конфэрэнцыі выдаў асобнай вялікай кнігай*)

У прадмове да гэтае кнігі чытаем: „Інстытут Беларускае Культуры ласкава просіць усіх асоб, асабліва лінгвістаў і настаўнікаў, якім будзе надаслана гэта кніга, або ў рукі якіх яна пападзе, **прысылаць свае рэцэнзыі** па закранутых у кнізе пытаньнях, а таксама па іншых пытаньнях нашага правапісу і графікі, што хоць не закраналіся на Конфэрэнцыі, але якія патрабуюць пэўнай зьмены ў бок іх упрашчэньня. Усе гэткія рэцэнзыі, артыкулы й заўвагі, хоць-бы і дробныя, з удзячнасьцю будуць прыняты і надрукаваны Аддзелам Мовы і Літаратуры ў наступной кнізе, якая павінна прадставіць сыстэматычны і поўны проект рэформы беларускага правапісу і графікі".

Гэткая разумная й сур'ёзная пастаноўка справы прынукае нас вельмі ўважна аднесьціся да працаў Конфэрэнцыі.

---

Конфэрэнцыю адчыніў проф. **У. Ігнатоўскі**, старшыня Інстытуту Беларускае Культуры. У харошай прамове ён каротка падаў вонкавую гісторыю беларускае мовы ды беларускага народу наагул, пачынаючы ад Пранціша Багушэвіча („Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай"...) ажно дагэтуль. Далей настала мноства прывітаньнеў ад сваіх і чужых. Адцемлю з іх некаторыя. Братнім спагадам і разуменьням нас веяла ад прамовы рэктара Літоўскага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, проф. **Біржышкі**. Зварочуючыся да сяброў Конфэрэнцыі, ён пажадаў „каб тая справа, якая носіць скромны назоў—рэформа правапісу, дапамагла вам выйсьці на запраўдны самастойны культурны шлях, выявіць творчасьць вашага народу ў найбольш вольных, найбольш пэўных формах". Латыскі поэта **Ян Райніс** (цяпер міністар асьветы) выказаў пагляд, што „Акадэмічная Конфэрэнцыя зьявіцца будаўніком падвалін беларускае культуры", расказаў аб беларускай меншасьці ў Лацьвіі ды дадаў гэткае: „Інтарэсы пролетарыяту Латвіі вымагаюць, каб беларускі народ разьвіваўся як мага барждзжэй....

„Я сам паходжу з Латгаліі, з тэй яе часткі, дзе жыве многа беларусаў. Я зьвязаны з беларусамі сяброўствам. Я ўзяў на сябе абавязкі бараніць іх інтарэсы, пакуль у сойме ня будзе беларускага прадстаўніка. Я глыбака спачуваў бе-

---

*) Інстытут Беларускае Культуры. Аддзел мовы і літаратуры. **Працы Акадэмічнае Конфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі** (14—21 лістапада 1926 г.) пад рэдакцыяй Старшыні Аддзелу мовы і літаратуры С. Некрашэвіча і Старшыні Інстытуту Беларускае Культуры У. Ігнатоўскага. У Менску—1927. Стар. XXVII—429 у 4°.

ларусам яшчэ ў тыя часы, калі яны былі прыгнечаны царскім рэжымам, а таму і зразумела, што цяпер я магу таксама глыбака спачуваць культурнаму ўздыму беларускага народу, які далучаецца да сусьветнае культуры народаў і прагнецца ўнесьці сваю долю ў агульналюдзкую культуру. Мне здаецца, што беларускі народ, які меў ўжо высокую культуру ў той час, калі ў нас ня было яшчэ ніякай культуры, гэты народ хутка дасягне культуры агульна эўрапейскай і зойме віднае і пачэснае месца ў сям'і іншых народаў. Ваша будучына самая слаўная.

„Гэтай слаўнай будучыны я і жадаю беларускаму народу“, закончыў сваю прамову наш стары прыяцель.

Прадстаўнік Лацьвійскага Унівэрсытэту, доцэнт **Блесэ** ў сваёй прывітальнай прамове зрабіў гэткую вельмі цікаўную зацемку аб беларускай мове:

„Нам латыскім вучоным, асабліва латыскім мовазнаўцам, беларусы і іх мова заўсёды былі прадметам глыбокай цікавасьці. Мы ведаем, што беларусы зьяўляюцца спакон веку суседзямі латышоў як на паўднёвым усходзе ад Латвіі, так і **на паўночным усходзе** (подчырк мой—Я. С.). Мы ведаем, што ўжо з IX стагодзьдзя, а магчыма і раней—з.VIII, VII в.в.—існуе ўплыў беларускае мовы на мову латыскую. Нашы латыскія мовазнаўцы, калі сталі вывучаць сваю народную мову, не маглі не зьвярнуць свае ўвагі на гэтую зьяву. У самых старых помніках прысьвечаных гэтаму пытаньню, маюцца паказаньні на сувязь латыскай мовы з беларускаю. Дзякуючы разьвіцьцю латвійскай лінгвістычнай навукі, гэты ўплыў беларускай мовы на латыскую становіцца ўсё больш і больш ясным, што я мушу тутака і адзначыць. Цяпер нават ужо маюцца працы, выключна прысьвячаныя гэтаму пытаньню. Уплыў беларускай мовы сказуецца і на нашай лексыцы. Калі вы возьмеце новы слоўнік, які ў нас укладаецца, то ў нашым сучасным лексыконе вы знойдзеце вельмі шмат слоў, запазычаных з беларускай мовы. Вось чаму латыскія мовазнаўцы мусяць лічыць беларускую мову асабліва вартай іх увагі, як блізкую мову да іх роднай мовы“.

Падобны ўплыў беларускае мовы быў і на мову літоўскую. Літоўскі філёлёг, нябошчык проф. **К. Буга** даводзе ў сваіх працах, што ўплывы беларускае мовы на літоўскую пачаліся яшчэ з VI в.

Проф. Маскоўскага ўнівэрсытэту, **Растаргуеў** (Беларус) зварочуе ўвагу Конфэрэнцыі, што не даволі вывучаць гісторыю й дыялектолёгію беларускае мовы, але трэба прыступіць і да вывучэньня цяперашняе беларускае **літаратурнае** **мовы; гэткае вывучэньне—кажа ён—для беларускае мовы ня меней, а яшчэ балей патрэбна, чымся для моваў іншых.**

Конкрэтныя працы над рэформаю беларускае абэцэды й правапісу папярэдзілі два рэфэраты на агульныя тэмы аб беларускай мове. Прачыталі іх—правадзейны сябра Інстытуту С. Некрашэвіч і проф. П. Бузук.

**С. Некрашэвіч** прачытаў вялікі рэфэрат на тэму „Сучасны стан вывучэньня беларускае мовы“, у каторым даў поўны й systэматычны агляд гэтага стану із сваімі крытычнымі зацемкамі. Адцемлю з ягонага рэфэрату толькі найпатрабнейшае й найцікавейшае.

У вапошнія часы прынамся 9/10 працаў аб беларускай мове прыпадае на Радавую Беларусь. Аб часьці іх даведаваемся ўпяршыню з рэфэрату Некрашэвічавага. У Інбелкульце моваведная праца падзелена паміж асобнымі комісыямі.

Вельмі добра, што **Тэрміналёгічная Комісыя** „у сваёй працы застанавілася на прынцыпе менш уводзіць чужаземных слоў, замяняючы іх сваімі словамі, хоць можа і ня зусім дапасаванымі да таго ці іншага абстрактнага значэньня. Але Камісія была ўпэўнена, што словы народнай мовы з іх конкрэтным, рэальным значэньнем будуць лепш перадаваць навуковыя абстрактныя разуменьні, чым словы чужаземнай мовы, што конкрэтныя словы народнай мовы будуць з часам набываць абстрактнае значэньне“. Зусім правільна, што „Тэндэнцыя да замены чужаземнай стыхіі сваёю ня ёсьць толькі зьявішча беларускай культуры. Яна заўважваецца ў апошнія часы бадай ува ўсіх народаў, нават у рускіх, у мову якіх „вышэйшым сьветам“ было ўнесена вельмі многа чужаземнага элемэнту“. Небясьпечнасьць ад чужога элемэнту ў беларускай мове тым большая „што беларуская культура яшчэ да апошняга часу адчувае на сабе досыць моцныя ўплывы нашых суседніх народаў—рускіх і палякоў, у мове якіх вельмі многа чужаземнай стыхіі“.

**Слоўнікавая Комісыя** задалася мэтай „ улажыць па магчымасьці поўны слоўнік жывой беларускай мовы“... „Слоўнік павінен адбіць як народную гэтак і літаратурную беларускую мову“. Прыймаючы пад увагу, што беларуская літаратурная мова адносна яшчэ мала апрацавана. Комісыя зусім правільна пастанавіла „перавагу ў слоўніку аддаць народнай мове, выкарыстаўшы пры гэтым усе ранейшыя як друкаваныя, так і рукапісныя матар‘ялы і шырака арганізаваўшы зьбіраньне слоў з жывой народнай мовы“. Слоўнік жывое мовы мае абхапіць усё XIX ст. і першую чэцьверць XX ст., хоць, здаецца, ён павінен быў-бы абхапіць таксама другую палавіну XVIII ст. Пры зьбіраньню слоў з літаратурнае мовы „Камісія застанавілася на прынцыпе ўкладаньня слоўнікаў паасобных пісьменьнікаў“, ведама толькі найважнейшых з іх. Усяго такіх слоўнікаў паасобных пісьменьнікаў уложана ўжо 11.

Зьбіраньне слоўнікавага матар'ялу беспасярэдне з вуснаў народных ідзе ўсюды даволі ўдачна. „Але вельмі прыходзіцца шкадаваць—кажа рэфэрэнт—што нам так доўга не ўдаецца зьвязацца з Заходняю Беларусьсю і наладзіць там зьбіраньне слоўнікавага матар'ялу. Гэта тым больш важна, што заходнія гутаркі менш падупалі расейскаму ўплыву, а таму ў большай чыстаце захавалі сваю беларускую лексыку". Прадстаўнікі Слоўнікавай Комісыі спадзяваліся на Конфэрэнцыі ўмовіцца аб гэтым з прадстаўнікамі Зах. Беларусі, але апошнія на Конфэрэнцыю ня прыехалі, бо польская ўлада ня выдала ім пашпартаў. Як ведама, у Зах. Беларусі дагэтуль вельмі мала забрана слоўнікавага матар'ялу. Дзеля гэтага Беларускае Навуковае Т-ва павінна напасьледак на гэта зьвярнуць асаблівую ўвагу. Нашая Рэдакцыя маніцца таксама сыстэматычна займацца гэтаю справаю, як і наагул краяведай—на старонках „Родных Гонеў".

У слоўніку жывое беларускае мовы ўсе тлумачэньні слоў мусяць быць дадзены толькі пабеларуску.

Географічныя назовы і собскія імёны увойдуць у васобныя слоўнікі.

Слоўнікавая Комісыя апрацовуе таксама вялікі практычны расейска-беларускі слоўнік, каторы мае быць пашырэньням гэткага-ж слоўніка С. Некрашэвіча й М. Байкова.

Маецца наўвазе таксама ўлажэньне **гістарычнага слоўніка** беларускае мовы.

Працуе таксама **Фольклёрна-Дыялектолёгічная Комісыя** Інбелкульту. З надрукаваных дыялектолёгічных працаў, здаецца, асабліва будуць цікаўныя тыя, у каторых разглядаюцца беларускія дыялекты Чарнігаўшчыны.

Па вычэрпуючым рэфэраце Некрашэвічавым проф. Фасмэр (прадстаўнік Бэрлінскага ўнівэрсытэту і прускага міністэрства асьветы) зьвярнуў увагу на карыстаньне **апытальнымі** лістамі пры ўкладаньню краёвых слоўнікаў. Апытальныя лісты бываюць розныя, як прыкладам некаторыя ў Нямеччыне аб вінаробстве. Ен-жа зварочуе ўвагу на патрэбу ўкладаваньня слоўнікаў **умоўных моваў**. Із слоў Сербава (Беларус) даведаваемся, што ведамыя дзьве ўмоўныя гутаркі беларускія—гутарка шапавалаў м. Дрыбіна Аршанскае акругі і гутарка краўцоў м. Капыля Слуцкае акругі.

Проф. **П. Бузук** прачытаў рэфэрат на тэму: **„Становішча Беларускай мовы сярод іншых славянскіх моваў"**. У гэтым рэфэраце П. Бузук паказаў граніцы беларускае мовы, час яе ўзьніку й адносіны да іншых славянскіх моваў.

Памойму карыстацца ізоглёсамі пры азначэньні цяперашніх граніцаў славянскіх моваў, як гэта зрабіў П. Бузук, ня можна. Ізоглёсы ў славянскіх мовах зьява старога часу, калі гэныя мовы былі яшчэ дыялектамі агульнае прасла-

вянскае мовы. А пазьней, калі асобныя славянскія дыялекты сталіся самастойнымі мовамі, дык і новыя зьявы ў іх узьнікалі ўжо ў кожнай незалежна ад іншых. Калі-ж цяперака паміж пагранічнымі дыялектамі розных моваў ёсьць супольныя языковыя зьявы, няведамыя іншым дыялектам аднае з іх, дык тутака маем дзела з уплывам аднае на другую, пры каторым асаблівасьці аднае мовы сьціраюцца, нівэлююцца і яна асымілюецца (упадабняецца) да мовы суседняй, народнай ці літаратурнай. Гэтак некаторыя асаблівасьці паўночна-расейскага дыялекту лучылі ў паўночныя беларускія гутаркі. Беларускія асаблівасьці, аб каторых успомнеў П. Бузук (**ы** перад **й**—крыю, **ў** з **л**—воўк, дзеканьне-цеканьне) пашыраны толькі ў невялічкай часьці паўночнага дыялекту расейскае мовы, а паіменна ў Пскоўшчыне (апрача пав. Порхаўскага) і ў часьці Цьвершчыны. Паводле расейскіх філёлёгаў *) гэтыя асаблівасьці былі занесены туды Беларусамі, пры гэтым не пазьней XIV ст. Але, прыймаючы пад увагу мноства гэтых беларускіх асаблівасьцеў, правільней будзе лічыць, што яны асталіся ад беларускае мовы, каторая пазьней была асымілявана там мовай расейскай.

Дысыміляцыйнае аканьне (вымаўляньне—выда, ныга, але—вады, нагі) ёсьць характэрнай рысай усходняга беларускага дыялекту і першы праф. Дурново зусім правільна пачаў ёю карыстацца пры азначэньню граніцаў на ўсходзе паміж беларускай і расейскай мовамі. А калі Дурново потым „амаль што зусім адмовіўся ад запрапанаванага ім способу азначэньня граніцы“, дык гэта ў яго вынікла з тае прычыны, што дысыміляцыйнае аканьне далёка на ўсход пашырана. Але ведама, што гэткі матыў чыста пачуцьцёвы і ня мае нічога супольнага з аб'ектыўнымі довадамі.

Цікаўна тут адцеміць, што доцэнт В. Воўк-Левановіч у сваёй працы „Беларускае аканьне“ прыйшоў да пераканаиьня, што дысыміляцыйнае аканьне зарадзілася ў Крывічоў. У гэтым пытаньню, як бачым, В. Воўк-Левановіч адхінуўся ад свайго вучыцеля Шахматава, ад каторага так някрытычна залежа ў пытаньню аб адносінах паміж беларускай, украінскай і расейскай мовамі. Ня ведаючы яшчэ аб гэных паглядах В. Воўк-Левановіча аб належнасьці дысыміляцыйнага аканьня Крывічом, я ў 1925 г. прыйшоў да таго-ж пераканаиьня і выказаў гэта ў пададзенай у канцы 1925 г. на Каралёвым у-це ў Празе доктарскай дысэртацыі. Тамака ж я задаў пытаньне, ці ня было дысыміляцыйнага аканьня і ў Севяранаў? На гэтае пытаньне мелі даць адказ дыялектолёгічныя дасьледзіны ў беларускай

*) Глянь „Приложеніе къ картѣ русскага языка въ Европѣ“ Дурново, Сакалова й Ушакова.

Чарнігаўшчыне. Магчыма, што тыя працы аб чарнігаўскіх беларускіх гутарках, каторыя нядаўна вышлі ў Радавай Беларусі, на гэтае пытаньне ўжо адказалі. Ведама, калі Севяране мелі аканьне, дык гэта значыла-б, што яны былі беларускім племем.

Паміж Дурново, з аднаго боку, і В. Воўк-Левановічам і мной, з другога, розьніца ў паглядах на належнасьць дысыміляцыйнага аканьня ў тым, што Дурново прыпісуе яго ўсім Беларусам, а мы толькі Крывічом (а, магчыма, і Севяранам).

Цікаўная паказаная П. Бузуком граніца некаторых дыялектычных асаблівасьцеў беларускае мовы. Гэтак паўднёвая граніца канчатку 1 ас. мн. л. на—**ом** (ненац.—**ам**)—правядом, пойдам „праходзіць ніжэй ад Харобрычаў і Брагіна (у Чарнігаўшчыне—**Я. С.**); перарэзаўшы Прыпяць, граніца далей прыблізна супадае з паўднёвай граніцай БССР".

„Паўднёвая-ж граніца саканьня (мыюса) даволі блізка падыходзіць да паўднёвай граніцы папярэдняй зьявы".

**Беларуская мова ўзьнікла беспасярэдне з мовы праславянскае.** У другім пытаньню—аб паходжаньню беларускае мовы П. Бузук, разгледзіўшы сьцяг старшых зьяваў у беларускай мове, прызнае, што беларуская мова ўзьнікла беспасярэдне з мовы праславянскае; языковыя дадзеныя „гавораць якраз проці тэорыі прарускага адзінства". Ведама, што „Беларуская мова—раўнапраўны сябра ў сям'і славянскіх моваў, які мае права на пачэснае месца сярод моваў сусьвету".

Пытаньне аб паходжаньню вызвала дыскусыі, бо адны дзяржаліся пагляду расейскіх філёлёгаў, што з праславянскае мовы выдзялілася спачатку праруская мова, а з яе потым выдзяліліся асобныя мовы—беларуская, украінская й расейская, а другія, разам із самым рэфэрэнтам, удачна даводзілі, што беларуская мова выдзялілася беспасярэдне з праславянскае мовы.

Найбольшым абароньнікам тэорыі „прарускага адзінства" выступіў В. Воўк-Левановіч. Прыводзячы сто раз паўтараныя і нічога не даводзячыя зьявы, ён стараецца пераканаць іншых, што ўсё-ж такі праруская мова была.

Але большасьць філёлёгаў выступіла проці тэорыі рускае прамовы. Асабліва востра проці яе выступіў доцэнт **Німчынаў**. „Прэзумпцыя прамовы—кажа ён—нарабіла шмат шкоды ў справе гістарычнага вывучэньня моваў усходнеславянскае галіны". „Бяруць—кажа ён далей—пэўную колькасьць аднолькавых моўных зьяў, якія характэрызуюць даную групу гутарак, і вось на аснове гэтага выводзіцца штучная будова прамовы. А дальш усе аднолькавыя зьявы данай групы будуць тлумачыцца на грунце гэтай прамовы"

Німчынаў паказаў характэрны прыклад, як расейскія філёлёгі дзівосна-розна выясьняюць тую самую зьяву, абы толькі захаваць тэорыю праруские мовы. Як ведама, адны славянскія мовы маюць перад е, і мяккія сугукі, а другія цьвярдыя. І вось „Кульбакін у працы "O pracach Szachmatowa, dotyczących się polszczyzny" (Rocznik Sławistyczny T. II.) ацэньвае гэту зьяву, як належачую да праславянскай эпохі. Калі-ж Кульбакін піша сваю кнігу „Украинский язык", ён ацэньвае яе, як гаворыцца ў прадмове да гэтай кнігі, ужо з пункту пагляду адзінства рускай мовы, забываючы свой ранейшы пагляд у „Roczniku" і пераходзячы на тэорыю агульна-рускага адзінства".

Нельга згадзіцца з тымі, як учасьнікамі Конфэрэнцыі, так і наагул, каторыя прызнаюць даўнейшае „праруское адзіноства". Яны ў сваіх довадах могуць толькі апірацца на тыя асаблівасьці, супольныя беларускай, украінскай і расейскай мовам, каторых нямаш у жаднай іншай славянскай мове. А да такіх асаблівасьцеў, ведама, не належыць ані **ч** з **-тй-** ці **-кт-** (хачу, ноч), бо яно ёсьць у мове славенскай, ані **о** з **ъ** (сон), бо гэта-ж маем у мове лужыцка-сэрбскай. **о** на пачатку некаторых слоў пры **е** (= је) ў іншых славянскіх мовах ня можа быць довадам за быцьцё калісь дапушчанае праруское мовы, бо ня толькі маем значныя выняткі з абодвых бакоў з гэтае асаблівасьці, але **о** тутака, а напару і **е**, яшчэ індо-эўропейскага паходжаньня, а значыцца не патрабавала ўзьнікаць у якуюсь праpускую пару. Гэта ясна паказаў проф. Г. Ільлінскі ў часапісе „Slavia" II. 2-3. Іншае ўжо пытаньне, чаму вялізарная большасьць **о** на пачатку слоў захавалася ў мовах беларускай, украінскай і расейскай, а ня іншых. Я думаю вось дзеля чаго. Яшчэ ў праславянскую пару ў большасьці славянскіх дыялектаў пачатнае **о** дастaвала **j** (j+o)*), а далей, як ведама, **jo-** пераходзіла ў **je-**. Але ў дыялекце, з каторага ўзьнікла беларуская мова, націсьненае **о** дастaвала протэтычны (прысунены) гук **в** (восень, возера і г.д.), а ненаціськенае **о** рэдукавалася (і з часам перайшло ў **а**), дык не магло перад гэтым **о** зьявіцца **j**. А што датыча дыялектаў, з каторых узьніклі потым расейская й украінская мова, дык, трэба думаць, у іх **j** перад **о-** не зьявілася затым, што гэтыя мовы наагул ня любяць прысуваньня **j**.

Астаецца, значыцца, толькі адна зьява -оло-, -оро-, -ерэ- за **о** (галава, карова, бераг), супольная беларускай (хоць у беларускай мове ёсьць выняткі), украінскай і расейскай мове, а няведамая іншым слав. мовам (хоць і там ёсьць выняткі). Што датыча беларускае мовы, дык А. Карскі ў сваіх „Беларусах" у свой час ставіў пытаньне, ці ня было ў беларускай мове спачатна—ора-, -ола-, -ера,- а пасьлей толькі

*) Гэтак выясьняў проф. О. Гуер на сваіх лекцыях.

ўзьнікла **-оро-** і г. д. дарогай анолёгіі. Але калі-б **-оро-** за **-ор-** і г. д. было ў беларускай мове спачатна, дык на гэтай зьяве нельга было-б апіраць тэоры́і аб „прарускім адзіностве“. Гэта-ж у гэтай зьяве, што й было зацемлена на Конфэрэнцыі, чэская мова згаджаецца з паўднёва-славянскімі мовамі, але-ж ніхто ня важыцца прызнаваць якоесь пары супольнага толькі ім жыцьця.

Што ня было жаднае праруское мовы, апрача вышсказанага, відзім яшчэ з таго, што беларуская мова мае шмат старых, узьніклых яшчэ дыялектычна ў праславянскай мове, асаблівасьцеў, якіх нямашака ў мове расейскай ці украінскай. Прыкладам: ацьвярдзелае **р**, вусна-вусьнянае (білабіяльнае) **в**, дзеканьне й цеканьне, протэтычнае **в** перад **о** й **у** (вока, вуха, вугаль), склады **ры**, **лы** і **ір**, **іл**, што паказуе, што калісь мусіла быць у нас **р** і **л** складовае, занік **ь** а далей і **j** ў складзе **jь-** на пачатку слова (белр. маю, рас. имею), **ы**, **і** перад **й** (малады, трэці), мяккі канчатак у 3-й асобе адзін. і мн. л. (ходзі**ць**, ходзя**ць**), **о** ў давальным і месным склоне займя **ты** й **сябе** (табе з тобе і сабе) і шмат іншых.

Прызнаючы праруск**у**ю ці інакш усходне-славянскую прамову для беларускай, украінскай і расейскай мовы, В. Воўк-Левановіч прымушаны быў таксама прызнаць прамову заходне-славянскую й паўднёва-славянскую, бо паміж асобнымі мовамі гэтых групаў балей супольных вылучна ім адным асаблівасьцеў, як паміж мовамі беларускаю, украінскаю й расейскаю. Але найвялікшыя лінгвістычныя аўторытэты (прыкладам О. Гуер) ды наагул траха ўсе лінгвісты гэткія пераходныя славянскія прамовы адкідаюць.

З усяго вышсказанага відаць, што не магло быць жаднае праруское мовы і што беларуская мова мусіла ўзьнікнуць беспасярэдне з мовы праславянскае.

(Далей будзе).

## Да нашых падпішчыкаў і прыяцелеў.

Дальшы (6) нумар „Родных Гонеў“ выйдзе ў другой палове кастрычніка і далей „Родныя Гоні“ будуць выходзіць нормальна.

З тае прычыны, што сёлета ўлетку ня кожны месяц выходзілі „Родныя Гоні“, нашым падпішчыкам будзем лічыць плату не ад месяца, але ад лічбы дастаных кніжак „Род. Гонеў“, г. зн. за 12 кніжак 8 зал., за 6 кн.—4 зал., за 3 кн.—2 зал. і за 1 кн. 75 грашоў.

„Родныя Гоні“ прымушаны ходацца з цяжкім матар'яльным палажэньням; ня ўсе нашыя сябры-сувыдаўцы, што забавязаліся плаціць на выдавецкі фонд „Род. Гонеў“ па 10 зал. у месяц, вытрывалі ў сваёй цяжкой павіннасьці. Дзеля гэтага зварочуемся да нашых сувыдаўцоў, падпішчыкаў і ўсіх прыяцелеў „Родных Гонеў“ памагчы нам чым мага: акуратнай платай сяброўскіх штомесячных складак, акуратнай падпіскай, знаходжаньням новых падпішчыкаў, зьбіраньням грошы на выдавецкі фонд „Род. Гонеў“.

РЭДАКЦЫЯ.

М. ЧЭМЕР.

# Верная дачка Сонца і „Шчырай Зямелькі“.

## Натальля Арсеньнева: „Пад сінім небам“.

Віленскае выдавецтва Б. Клецкіна. Вільня, 1927. ст. 141 у 8°. Цана 2 зал. 50.

I

Толькі што вышаў з друку першы зборнік вершаў нашае ведамае пясьняркі Натальлі Арсеньневай, які зьмяшчае вершы за 1921—1925 г. г. У нашых часапісах усьцяж зьяўляюцца новыя вершы Н. Арсеньневай, дык трэба думаць, што не заставіць доўга чакаць сябе і другі зборнік Яе поэзыі.

Першы зборнік поэты зазвычай, як яго „пяршак“, мае ўжо, часам і найбольш ярка,—выражаны характар індывідуальнай асобы тварца... Часта ў першым зборніку, у першым вялікшым творы, вялікшы поэта дае быццам сваю „поэтыцкую праграму“, „свой маніфэст“, „сваю тронную прамову“, якую далейшыя творы толькі разьвіваюць, пашыраюць, паглыбляюць, выконуючы яе—у вялікае „дзела жыцьця“. Але—часта, ах залішне часта! першыя творы даюць нам ужо амаль не цалком усяго поэту, які ў далейшым толькі, як кажуць,—„насьлядуе самога сябе“, перапявае свае першыя песьні... Асабліва—у нашыя, бягучыя такім шпаркім тэмпам часы,—душы й таленты насьпяваюць так борзда, так залішне борзда, сьпяшаючыся неяк вылажыць усё, што ўлажыла ў іх Прырода, быццам самі ня вераць у трывалы, вольны й бязьмежны расьцьвет жывучага ў іх духу...

Першы зборнік вершаў поэты мае заўсёды—як для чытачоў, так сама і для аўтара—асаблівую важнасьць.—Для аўтара ён мае значэньне першага важнага й адказнага спатканьня з публікай, значэньне так сказаць „хрэсьбінаў“,— першай „спробы агнём і... вадой“ крытыкі. Для чытачоў, а наўперад для найбольш уважных і сур‘ёзных з чытачоў,— для крытыкаў, першы зборнік поэты мае асаблівую важнасьць дзеля таго, што першы раз дае магчымасьць—абняць разам, ахапіць зорам, зьвязаць і ацаніць, як нешта цэлае, усё тое, што зьяўлялася й чыталася паасобку, уразьбіўку; дае магчымасьць угледзіць усю вагу, вартасьць і навіну таго літаратурнага зьявішча, якое прадстаўляе сабой паэзыя рэпрэзэнтуючагася грамадзянству тварца... Першая кніжка паэты дае магчымасьць запраўды-ж упяршыню **добра пазнаёміцца з паэтам**,—з яго душэўным жыцьцём, выяўленьням якога зьяўляецца ягоная паэзыя.

---

Пераходзячы да зборніку Натальлі Арсеньневай, трэба сказаць, што забраныя ў ім вершы за пяць год хаця маладога, але сьведамага ўжо цалком жыцьця пясьняркі, гэта матар'ял, які дае магчымасьць грунтоўна судзіць—ня толькі аб індывідуальным паэтыцкім багацьці, якое зьмяшчаецца ў кніжцы, так сказаць, „у гатоўцы", але і аб тым,—як расло ды множылася гэтае багацьце, якімі шляхамі, якім тэмпам ішоў рост паэтычнага развою аўтаркі... А гэта дае, у пэўнай меры, права меркаваць аб тым, якія магчымасьці тояцца ў аўтаркі для далейшага ейнага росту й развою...

І вось, першае ўражаньне—магутнае, пераконуючае, што перад намі—зьявішча запраўднай, самамэтнай арганічнай, шчырай паэзыі „Божай міласьцю", паэзыі кроўна-блізкой найглыбейшым жаролам народнага духу і дзеля таго маючай усе падставы для далейшага бліскучага развою й расьцьвету...

Натальля Арсеньнева мае ўсё, каб зрабіцца першарадным тварцом у паэзыі,—мае глыбокі й шырокі грунт пад сабой—у пачуцьці спачатных, асноўных стыхіяў Жыцьця й Прыроды, пачуцьці, якое радніць яе з падставамі першайнатуральнай рэлігіі нашых далёкіх прэдкаў. Яна мае выплываючую з гэтай кроўнай неразрыўнай сувязі з Прыродай і моцнай у ёй апоры—магутную сілу душы і бязьмежна, бязьмерна ўдзячную любоў да жыцьця і веру да гэтае Прыроды, без каторых ня можа быць і запраўднай любові да свае роднае прыроды, да свае Бацькаўшчыны, да свайго Народу.

Яна мае і бяспрэчны чароўна-лёгкі дар музыкальнага выслаўленьня гэтае свае любові, гэтае свае—прынцыповае веры да прыроды, як яе верная, шчырая, а дзеля таго—любімая дачка... Яна мае чароўны дар „слова-чару" заражаць нас, як уладная чараўніца, гэтай музыкай свае шчырае любові да прыроды,—запаляць нашыя сэрцы тым самым агнём, тым самым „сонцам", якім поўна яе душа. Яна мае багаты слоўнік свабодна, але законамерна—бо-ж арганічна спароджаных гэтай яе любоўю й захапленьням—выразаў і абразоў для ўяўленьня гэтае Прыроды—на толькі яркі, жывы, бяспрэчны і беспасярэдне пераконуючы, што здаецца, быццам гэта Прырода ў вершах пясьняркі выслаўляецца сама, быццам у паэзыі Прырода любуецца сабой, як у люстры...

І гэта—ясна і ёсьць першай азнакай шчырай паэзыі, якая раскрываецца цалком толькі тэй чулай і творчай душы дзіцяці, жанчыны, песьняра, якія не парвалі яшчэ гэтай „спачатнай сувязі з Прыродай", не падняліся яшчэ ў тыя галаваломныя, заваротныя „Краіны Духу", на якіх так бязумна й няўдзячна рвуць гэтыя сувязі, злучаючыя чалавека з улоньнямі вечнае Маткі-Прыроды, гатуючы гэтым самым няўхільныя цярпеньні, трагедыі, катастрофы ў будучыні...

Паглядзім-жа—як адбіваецца „дзяцінна-жаноцкая“ душа гэтае вернае дачкі Прыроды ў ейных творах.

Трэба адразу адзначыць, што надзвычайна удачна выбраны загаловак зборніку добра азначае гэты агульны характар яе паэзыі, яе—сьветапагляду. **„Пад сінім небам“**—пад „ясным Сонцам“—у неразрыўнай сувязі з Маткай-Прыродай—вось у чым бачыць зьмест, хараство й шчасьце поэтка. „Сіняе Неба“ і „сонца вясеньняга першыя косы“, вось—наймагутнейшыя, сьветлыя, дзіўныя сілы, якія твораць жыцьцё, даюць самі сабой сілу душы й цела сцаляюць ад усіх-усялякіх хваробаў і „смуткаў шэрае зямлі“, вызваляюць „ад няпрыветных песьняў гора“...

„Пад сінім небам—няма распачы“...
„У нябесных сінях несьмяротных“...
„Бязконцым сьвятам сплывае год“...

Гледзячы з верай на сіняе неба, на каторым, як Боства ўсяе Прыроды, зьзяе „яснае Сонца“, чалавек сам робіцца прычасным да гэтага „бязконцага сьвята“ „праўдзіва-ўзьлётнага жыцьця-натхненьня без перашкод“, робіцца шчырым сынам яго жывой „сіняй несьмяротнасьці“... Пясьняр, якога менш трымае зямля, якога „душаць мары жыцьця“,—ляціць „на белых крыльлях лятуценьня“ ў гэта сіняе неба—да пасаду Яснага Сонца—шукаць там „слова-чару“—запраўднага слова магічнай малітвы-паэзыі,—якое дало-б яму, а праз яго і людзём—сілу панаваць над „марамі жыцьця“.

Гэткім першым гімнам-малітвай Сіняму Небу і пачынаецца зборнік.

Але адразу відаць, што гэтае сіняе неба Арсеньневай **ня мае нічога супольнага з тым сымволічным „небам“ сьпірытуалізаваных** рэлігіяў, на каторым, як вераць людзі, жыве Бог... Гэтая „сіняе неба“ нашае пясьняркі—проста, **жывое**—„вось гэтае“ сіняе неба, якое зьзяе над намі сваімі „несьмяротнымі сінямі“. На ім гарыць-сьвеціць жывое залатое „сэрца неба“—Сонца, якое „залатою ласкай“—быццам жывой крывёй сэрца—залівае „ціхія палі“ Зямлі...

Перад тварам гэтага жывога відомага Бога Прыроды ня трэба дый ня можна тужыць-сумаваць, — можна толькі „заглядаць бяз конца у блакіт празрасты“

„Ні аб чым ня думаць—толькі смутна сьніць“...

Сьніць аб будучым шчасьці, набіраючыся на ўсё далейшае жыцьцё—цудоўнай, чароўнай сілы Сонца. Бо-ж чалавечая душа, як вучаць усе найстарэйшыя рэлігіі, створана якраз—„паводле абраза ды падобнасьці“ гэтага Бога-Сонца...

І канец гэтага верша „Май“ ясна кажа, аб чым мае „сьніць“ у Май жыцьця маладая чалавечая душа, „аддаючыся ласкам сонца,—

„Сьніць аб сінім небе, і аб полі чыстым,
**„Аб гарачым сонцы, што ў душы гарыць“.**

Слаўны грэцкі філёзоф сказаў даўно крылатыя словы:— „Я прыйшоў на сьвет, каб абачыць Сонца“...

Нашая пясьнярка ня толькі паўтарае гэтыя харошыя ўдзячныя словы старавечнага мудрыца, але дадае да іх штось новае.—Чалавек прыйшоў на зямлю ня толькі дзеля таго, каб пабачыць Сонца, але і дзеля таго, каб „наглядзіўшыся на сонца“, **самому зрабіцца як Сонца**... Паводле гэткага-ж ведамага поэтыцкага лёзунгу слаўнага расейскага поэты Бальмонта і яна кідае гэты сьветлы бадзёры покліч — „Будзем як Сонца!“. І яна пяе-заліваецца—з шчырай прасьцінёй первабытнай рэлігійнай веры—свае гімны-малітвы Сонцу; і яна чуе ў сабе, у сваёй душы яго творчую гарачыню—сваю кроўную свайню з гэтым спрадвечным Богам-Сонцам... І яна кліча ўсіх нас—„быці як Сонца“—гарэць, сьвяціць, „будзіць зямлю“, тварыць на ёй жыцьцё навакол,— так сама, як Сонца,—радасна, проста, бязынтэрэсоўна, шчыра—папросту з надмеру свайго боскага агню, свае творчае душэўнае сілы. Як сонца гарыць і сьвеціць так сама і сэрца—„любіць дзеля таго, што ня любіць яно ня можа“, як сказаў другі поэта...

Трэба сказаць, што гэтыя гімны, гэтыя запраўдныя малітвы Сонцу належаць да найлепшых твораў пясьняркі— шчырае золата разьлітай у іх поэзыі—быццам беспасярэдне цячэ з самога залатога Сэрца сіняга неба...

„У неба гляне і устане
„Зноў з нядоляй на змаганьне
„Верны сын зямелькі шчырай“...

І яшчэ—у тым-жа вершы („Крыніца“)—

Сілы дасьць яму крыніца (на роднай зямельцы!),
„Веру,—Сонца, што іскрыцца...
„Сьмеласьць—неба, што сьмяецца“...

Родная „верная дачка Зямелькі шчырай“ не патрабуе яшчэ адразу падмяняць жывыя родныя, шчырыя стыхіі Прыроды, што спарадзілі яе,—абстрактнымі сымваламі ды сьпірытуалізаванымі абразамі... зложных арганізаваных рэлігіеў. Яна адчувае на сабе беспасярэдне й канкрэтна жывыя й жыватворныя ўплывы Маткі Прыроды. Кахаючая й каханая дачка гэтае спрадвечнае Маці, яна ўсьцяж адчувае на сабе і навакол бесьпарарыўныя цуды Неба, Сонца й Зямлі.

Сіняе Неба—спрадвечная краіна, адкуль сплывае на Зямлю ўсялякае шчасьце.—„Адсюль смутна-пекнай княгіняю „Пазірае спакойна вясна“...

Адсюль вясна, гэтая найвялікшая цудатворка на зямлі, зыходзіць уніз, каб—„сеяць новыя сьветлыя сны“ — аб шчасьці...

Дык ня толькі чалавек, але і ўся прырода на зямлі— моліцца гэтаму жывому сіняму пасаду Бога нашага сьвету.

У вадным з найлепшых вершаў-гімнаў Небу й Сонцу дадзены абраз такой запраўднай малітвы ўсяе богамольна-ўдзячнае прыроды — у тым вялізарным храме, у якім бязьмерна-ахоплюючым скляпеньням ёсьць—небасхіл...

Ня можам устрымацца каб ня выпісаць гэты харошы і асабліва характэрны для нашай пясьняркі верш цалком.—

Жамчужнай мглою хмаркі абвязалі
Нябёсы, Сонца цуць.
На залатых жытох сярэбраныя хвалі
Плывуць, плывуць, плывуць...
Які прастор кругом!—Бяз берагу, бяз краю
Калышуцца жыта,
У ружовым полымі вятраны дзень згарае.
Як цёпла—любата!...
Шмат-фарбным дыванам, красой-вясной сатканым
Лажыцца сенажаць.
І ўдзень і на зары, і ўвечары і зрана—
Там жаўранкі зьвіняць.
І звонкі іх прызыў, і лёгкія ўздыханьні
Красуючых палей
Нясуцца да нябёс—**малітвай дзякаваньня**—
Вышэй, вышэй, вышэй...

Пры жаданьні можна нават правясьці дэтальную паралель гэтага абраза молючайся прыроды з багаслужэньнем у храме... Але гэта было-б ужо залішне „ад чалавечага“...

Мы ведаем такія канцавыя абразы—паралелі быццам „хрышчанай“ у хрысьцянскую веру—ахвярна-церпячай „на крыжы“—Прыроды—у слаўнага бэльгійскага поэты Родэнбаха і ў іншых. Але з імі поўнае свае „дахрысьцянскае“ сілы і самамэтнага жыцьця, простая, здаровая, сьветлая—удзячная Сонцу прырода Арсеньневай мае вельмі мала супольнага...

(Далей будзе).

М.

# Яшчэ адказ „Biełaruskaj Krynicy“.

У № 32 „Bieł. Krynicy“ надрукаваны ізноў „крытычны артыкул“—аб чацьвертай кніжцы „Родных Гонеў“, каторы—у ведамай сваёй частцы—вымагае з нашага боку ізноў адказу.

Падзякаваўшы газэце за прызнаньне ведамых вартасьцеў нашаму адзьдзелу прыгожае літаратуры і сьцягу артыкулаў, зьвернемся да яе „разносу“ „папулярна-навуковага адзьдзелу“ гэтае кніжкі, ці прасьцей—нашага артыкулу аб Ньютоне,—каторы, як і ўсю нашую „філёзофію“, высака-адукаваны крытык“ ліча—„няўдалымі“. Паглядзім, якой вагі й характару запраўды гэтыя закіды.

Крытык „Віеł. Кг.“ дасьціпна закідае нам, што мы, пішучы аб матэматычным веку XVII ды аб яго найвялікшым генію—Ньютоне, нічога не сказалі... аб Альбэрце Вялікім, каторы... у XIII веку вывучаў расьліны...—закідае, што мы ня ўспомнелі навет—аб „Робэрце“ (пэўне-ж—Роджэру, пане N.) Бэкону, што жыў яшчэ раней ды так сама „студыяваў прыроду“.—Чаму-ж гэта трэба было канечне ўспамінаць ды пахваліць гэтых—пэўне што добрых вучоных? А вось бачыце—дзеля таго, што першы з іх быў „дамініканін і біскуп“, а другі—„францішканін“, як гэта асабліва падчыркуе „Віеł. Кг.“. Пэўне, што можна было знайсьці шмат яшчэ добрых вучоных у розных галінах у Сярэднявеччу. Але мы правільна абмежыліся толькі тымі, каторыя былі нам канечне патрэбныя, як беспасярэдне зьвязаныя з развоем матэматычнай ды—яшчэ цясьней—з астраномічнай думкай веку,—як беспасярэцвія папярэднікі Ньютонавы.

Высьвятляючы позытыўна развой навуковай думкі Новага Часу, мы павінны былі—якраз **мімаходам**—адзначыць і ўсе тыя варожыя да яе сілы й зьявы, каторыя процідзеялі яе паступу. І—ці-ж нашая віна ў тым, што на чале гэтых варожых сілаў стаяла наймагутнейшая тады—на мяжы Сярэднявечча й Новага Часу—міжнародная арганізацыя, маючая ў руках „абодва мячы“—духоўны й сьвецкі—Каталіцкая Царква, каторая ўсімі спосабамі ды за ўсялякаю цану пачала бараніць наўперад сваю ўладу... Дый сам наш крытык прызнае, што схолястыка, маючая сьпярша „здаровае разьвіцьцё“ з часам „**вырадзілася**“... — Трэба толькі дадаць, што вырадзілася якраз у тыя часы, калі ад яе ўжо адляцеў жывы дух, а перайшоў да запраўды навуковай сьвецкай думкі Новага Часу, з якой схолястыка безнадзейна далей ходалася...

Дык—ня мы-ж не дацаняем значэньня схалястыкі ў свае часы, а „Віеł. Кг.“ перацаняе яе „абсалютную вартасьць“, радзячы нам і цяпер—у нашыя часы — тарнаваць „мэтоду думкі так званай схалястыкі“ цяпер,—калі схалястыка, як цьвердзіць сам „крытык“, даўно вырадзілася!..—Здаецца, так гэта й робіцца ў розных так званых „духоўных“ школах, дзе, як трэба думаць, дастаў „навуковую“ асьвету наш крытык.

Пасьля гэтага—яго наагул справядлівы загад, але зусім несправядлівы адносна да нас закід: „не мадэрнізаваць гісторыі“—можам толькі з большай рацыяй—mutato mutando (зьмяніўшы, як трэба) вярнуць яму: ня можна — бо гэта яшчэ горэй—і „архаізаваць“ ці—„рэакцыянізаваць“ сучаснасьць, стараючыся ўвекавечыць ды вярнуць з гістарычнай магілы—даўно перажытыя этапы развою людзкога духу.

„Кажучы аб сыстэме Птолемэя, аўтар стацьці аб Ньютоне адначасна сыстэму гэтую прыпісвае й Біблії“... Так цьвердзіць аб нас „уважны крытык“. — Ну, пэўне-ж аўтар стацьці аб Ньютоне—не такі „нявінны“, каб лічыць, што аўтары Бібліі „ведалі“ сыстэму Птолемэеву, што створана дзясяткі вякоў пасьля... Дык гэты, выбачайце, фалш—патрэбны „крытыку“ толькі дзеля спэцыфічнай „лёгкасьці перамогі“... У стацьці нашай стаіць толькі вось што: — „паводле Бібліі ды так званай „сыстэмы сусьвету Птолёмэя“ зямля ёсьць непарушная ў цэнтры сусьвету“... Гэта-ж значыць толькі, што паводле гэтых абодвух „аўтарытэтаў“: Бібліі й Птолемэя—**так верылі ў Сярэднявеччу**. Добра ці ня добра кажа „Віеł. Кгупіса“, што „Біблія ня ёсьць астраномічным трактатам“, але—якраз „астраномічным аўтарытэтам“ Бібліі ў тыя часы—як папеж так сама і Лютэр—абодва даводзілі фалшывасьць астраномічнай тэорыі Капэрнікавай, — аб чым прыведзены дакумэнтальныя тэксты ў артыкуле аб Ньютоне...

„Перамога“ крытыка „В. Кг.“, як бачым,—натолькі-ж „лёгкая“, як і нятрывалая...—Чаму?—Бо пабудавана, выбачайце,—на фалшы.

---

Пойдзем далей—да наступнога фалшу.

„Крытык“ закідае нам, быццам мы—пішам „камсамольска-дэмагагічныя“ рэчы—„проці Папежа, Касьцёлу„, у даказ чаго бярэ з нашага артыкулу гэткую „цытату“—„Проці новай думкі паўсталі Папежы, біскупы, вучоныя астралёгі, бо ім яна „адбірала хлеб“... Калі пабачым, як несфалшавана стаіць у нас, дык знойдзем:—

„Проці новай тэорыі паўсталі, ня толькі князі, папежы ды біскупы, **але і самі** вучоныя астралёгі тых часоў, **якім** прасьціня ды яснасьць новае „сыстэмы сьвету“ — адбірала хлеб“...

Ясна, што хаваная тады астралёгія адбірала хлеб пэўне-ж толькі тым, хто ёй гандляваў ды ёй жывіўся—астралёгам,—але ня папежам, біскупам ды князём, якія пэўне-ж мелі „хлеб“—і бяз лішняй навукі...

І вось,—на падставе гэтых вышэйпаданых „цытатаў“ і доводаў „Віеł. Кг.“ становка адмаўляе ўсялякай „навуковай вартасьці“ нашаму артыкулу аб Ньютоне.

Пакідаем чытаром самым ацаніць „навуковую“ ды маральную вартасьць такое „крытыкі“...

---

Але-ж яшчэ „вастрэй“ орган беларускіх клерыкалаў абураецца на наш адказ на яго „крытыку нашага артыкуку аб Сьпінозе (у № 3 „Родн. Гоняў“).

Перад тым, як перайсьці да разбору гэтых закідаў, адзначым, што абодва „крытыкі“ „Bieł. Kr.“, „блізьнюча“ падобныя адзін да аднаго, усьцяж робяць вельмі небясьпечныя для клерыкальна-каталіцкай газэты „ляпсусы“... Напрыклад, малодшы з гэтых „сіямскіх блізьнят“, п. N. піша: аўтар стацьці аб Сьпінозе—„робіць выпады проці Каталіцкага Касьцёла, выпады **часта** зусім беспадстаўныя“... Значыць сам крытык каталіцка-клерыкальнай газэты прызнае, што **некаторыя** з нашых „**выпадаў**“ (навет—**выпадаў**!) проці Каталіцкага Касьцёлу маюць падставу...—Гэй, пане N.—асьцеражней на паваротах—бо-ж ізноў дастанецца ад вышшай касьцельнай улады, як пэўне-ж дасталося брату-блізьняці за—„каталіцкую ортодоксальнасьць“ Сьпінозы!..

---

Гэты „крытык“ закідае аўтару стацьцей рад супярэчнасьцеў. — „Пісаў і ня пісаў аб каталіцтве“...—Але-ж кожнаму здароваму розуму—ясна, што—ня пісаў адумысьля аб каталіцтве, дык і ня мог „фальшаваць аб ім паняцьце“; але—пісаў—мімаходам—аб сярэднявечнай Каталіцкай Царкве, як аб сацыяльна-палітычнай установе, якая мела ўладу караць сьмерцяй людзёў ды душыць іх вольную думку, ды надужывала бязбожна гэтае ўлады.

Дый дарма „Bieł. Kr.“ пазываецца на Бярдзяева, Карсавіна, Эйкена, Джэмса, Паульсэна і інш., лічачы іх такімі-ж бязумоўнымі паклоньнікамі Каталіцкае Царквы, як п. п. рэдактары „Крыніцы“... беларускага клерыкалізму. Усе гэтыя мысьліцелі й дасьледчыкі крытычна разглядалі дый толькі ў **частцы дадатна**, праўда, наагул высака цанілі каталіцтва, як чыста духоўнае рэлігійнае зьявішча („идеальный католицизм“ Карсавіна і да т. п.). Але ніхто з іх не прабаваў навет цалком бяскрытычна мацней—**апрабаваць усе тыя надужыцьці ды гвалты**, якія зроблены былі Царквой Каталіцкай, як зямной, напалову палітычнай установай... А іменна гэта робіць, як зараз пабачым, клерыкальна-асьлеплы „крытык“ з „В. Кгупісу“...

---

Баронячы Цапежа і „Сьвятую інквізыцыю“, што спалілі жыўцом Дж. Бруно, ён кажа, што Бруно быў спалены ня толькі за яго кнігу; але—„так-жа і за яго немаральнае жыцьцё і за блюзьнерствы і інш.“... Якія яшчэ „праступленьні“ хаваюцца за гэтым „пракурорскім“ „**інш**“ у неведамым нам, прызнаемся, з агульнай гісторыі абвіняючым акце проці Бруно, „Bieł Krynica“ не раскрывае. Але даволі й таго, што яна раскрыла. — Значыць — паводле паважанае „Крыніцы“ беларускае клерыкальнае „гуманнасьці“—выходзіць, што—**за „немаральнае жыцьцё“** ды „**блявузганьні**“—**можна паліць людзёў жыўцом**...

Ня ведаем,—ці згадзіліся-б п. п. Джэмсы ды Карсавіны ці Эйкены прызнаць сваімі „сябрамі“ паноў рэдактароў ды „крытыкаў“ з „Віеł. Кг.“... А ці-ж ня чуў п. N. старонкай—колькі было за ўсю гісторыю Касьцёлу Папежаў, біскупаў ды іншых „духоўных князёў“, што проста ўславіліся сваім немаральным жыцьцём, зьбіраючы на гэткае жыцьцё—вялізарныя грошы з вернікаў.. А ўсе яны—каго паводле „В. Кг.“ трэба было самых спаліць жыўцом, усьцяж палілі іншых, дый яшчэ такіх, як Джордано Бруно, да генія якога ім усім была далека... Хай ляпей „Віеł. Кг.“ не правакуе нас на тое, каб мы прывялі—паводле дакумэнтаў—вялізарны сьпісак гэтых «князёў царквы»—асабліва ў XIV.XV і XVI вв., якія ўславіліся—дый ня толькі немаральным жыцьцём, але і блявузганьням... Можа нешта чуў п. N. хоць-бы аб слаўнай фаміліі Мэдычы?!

І вось—пасьля ўсіх гэтых фалшаў і ў цытаваньні нашага тэксту і ў асьвятленьню гістарычных падзей—наш «маральны крытык» абураецца на нас, быццам «аўтар адказу выразна сфалшаваў нашу (блізьнят Z. і N...) крытыку—стацьці аб Сьпінозе.

Прызнаем, што ўся „абарона“ проці нас Сьпінозы з боку крытыка „Віеł. Кгупісу“, які знайшоў у яго філёзофіі—чыста „каталіцкую тэзу аб Богу“, да таго ўзьвесяліла нас, што мы не маглі ўжо далей так „сур'ёзна“, як гэтага хацеў-бы незаслугуючы на гэта наш крытык, аднясьціся да ўсяго яго далейшага „разумаваньня“... Не памагае свайму брату-блізьняці Z. і п.N ... Бо—ці-ж можна „дзяліць напалову“ азначэньне Сьпінозавага Бога, кажучы: гэтая палова—правільная—бо каталіцкая, а другая—не!? Дык пэўне-ж не рабіла так у свой час дый ня робіць і цяпер сама Каталіцкая Царква, уключыўшы ўсе бяз вынятку Сьпінозавы творы ў „Індэкс“—разам з усімі іх „тэзамі“—не разьбіраючы, якія сярод іх „каталіцкія“, а якія не...

Усім ведама, на колькі ўвесь „дух“ філёзофіі Сьпінозы і яго Бога—чужы каталіцтву, а асабліва—сярэднявечнай Царкве.

І ня робіць пэўне-ж Сьпінозу бліжэйшым да каталіцтва тое, што ён—„пісаў палацінску і мэтодай схалястычнай“, як мудра ўсьцяж даводзіць „Віеł. Кгупіса“... Дагэтуль усе, ізноў-жа думалі, што Сьпінозава „Этыка“ напісана мэтодай гэамэтрычнай. Бо „тэзы, довады, точнасьць, парадак“, усё гэта—мэтода, якая раней апрацавана яшчэ тварцом гэомэтрыі, — старавечным грэкам Эўклідам... Але-ж—ці можна сумлявацца ў тым, што—пасьля таго, як „Віеł. Кгупіса“ зрабіла Сьпінозу, „каталікам“, ёй ужо зусім лёгка будзе зрабіць сярэднявечным „схалястыкам“—самога Эўкліда!..

---

Падсумовуючы ўсё, што сказана вышэй, трэба цалком згадзіцца з словамі нашага „крытыка“: „Бедныя мы яшчэ на сваю запраўдную інтэлігенцыю“... „Але—нічога: прыспорыцца“, паправімся і мы за ім... Але наш оптымізм будзе крыху крытычнейшы:

Прыспорыцца тады, калі мы пакінем фалшаваць навуку, гісторыю, цытаты праціўнікаў, пакінем розныя падобныя дрэнныя маральныя ды разумовыя звычаі ды „налогі“, тарнаваныя для „лёгкасьці перамогі“ над праціўнікам... А асабліва трэба, кінуць гэтыя немаральныя звычаі таму, хто—такі срогі, такі крыважэрча-жорсткі, што ўсьцяж ліча патрэбным ды згодным з „рэлігіяй“—**паліць за „немаральнасьць“ людзёў жыўцом на кастры**...

# ГРАМАДЗЯНЕ БЕЛАРУСЫ!

Быў час, калі Вы, ведаючы, якое вялікае мае значэньне родная школа, дамагаліся беларускае школы і дзеля гэтага падавалі дэкларацыі. 1-га верасьня пачаліся ўсюды ў школах заняткі, — значыцца, ўжо час, калі Вашыя дамаганьні **павінны** быць споўненыя. Але тыя, што ўвесь час недавалі Вам беларускай школы, што ўсялякімі спосабамі стараліся замест роднай накінуць Вам—на Вашу загубу—чужую польскаю школу,—і сёлета, мо' ў апошні раз, пастараюцца ізноў ня даць вам беларускай школы ды запісаць дзяцей вашых у польскія школы. Зробяць яны гэта, спадзяючыся, што нашае сялянства, занятае цяжкой працай у полі, забылася аб сваіх павіннасьцях і правох вучыць дзяцей у роднай мове.

Дык усе Беларусы, як адзін, **прыпомнім** ім гэтае нашае сьвятое права. Пакажам усяму сьвету, што мы **станоўка** дамагаемся беларускае школы і іншае школы ня хочам.

Зрабіць гэта мы **павінны як найхутчэй**, бо потым будзе позна.

Заклікаючы ўсіх да гэтага, Галоўная Ўправа Т-ва Беларускае Школы ніжэй вылічае, што трэба зрабіць:

1) Міністэрства Асьветы выдала загад, што ў сёлетнім школьным годзе ўводзіцца абавязкавае вучэньне ў школах усіх дзяцей школьнага веку. Паводле гэнага загаду бацькі яшчэ ў месяцы жніўні павінны запісаць дзяцей у ўрадовую школу або наказаць свайму школьнаму інспэктару, што будуць пасылаць іх у прыватнаю школу, або вучыць дома. Гэтакі ёсьць загад Міністэрства Асьветы.

Дык бацькі, каторыя падавалі дэкларацыі на ўрадовую беларускаю школу, павінны цяпер падаць свайму школьнаму Інспэктару заяву (пабеларуску) гэтакага зьместу:

**Пану Школьнаму Інспэктару . . . . . . . . . . павету.**

Пётры, сына Язэпавага Пракаповіча, што жыве (напісаць, дзе жыве вёску й вол.).

З А Я В А.

Спаўняючы загад Міністэрства Асьветы, наказую што буду пасылаць сваіх дзяцей (напісаць імя й век) у беларускаю ўрадоваю школу (паказаць дзе), каторая ў нас згодна зь языковым законам з дня 31. VII. 1924г. і Распараджэньнем Мін. Рэл. Спраў і Публ. Асьветы ад 7. I. 1925 г. павінна быць адчынена, бо мы падалі на яе дэклярацыі.

Дзень напісаньня. Подпіс.

Кожны бацька ці маці піша асобнаю заяву а ўсе заявы разам вязе да школьнага інспэктара паўнамачнік ад дадзенае мясцовасьці (вёскі, засьценку, мястэчка, ці некалькіх вёсах), або яны перасылаюцца, таксама дзеля меншых коштаў, разам па пошце ўпісным (заказным) лістом.

Сьпісак (а не асобныя заявы) тых асоб (разам з азначэньнем дзяцей і іх веку), каторыя гэтыя заявы пашлюць школьнаму інспэктару, трэба пераслаць у Галоўнаю Ўправу Т-ва Беларускае Школы.

2) Усе тыя, што дэклярацыі на роднаю беларускаю школу з розных прычынаў летась увосень і зіму да 31-га сьнежня **не падавалі**, павінны напісаць (пабеларуску) супольнаю ад усяе вёскі ці засьценку заяву гэткага зьместу:

Мы, ніжэйпадпісаныя жыхары (назваць вёску або мястэчка) дамагаемся для сваіх дзяцей беларускае ўрадовае школы.

(Далей падпісацца ўсім бацьком і апякуном з азначэньнем імён дзяцей і іх веку).

Так-жа маюць рабіць тыя Беларусы, што жывуць у вялікіх местах.

Калі не згаджаюцца падпісацца пад такою заяваю ўсе бацькі дадзенае мясцовасьці (вёскі і іншых), дык няхай падпішуцца тыя, што хочуць падпісацца.

Гэтаю заяву трэба пераслаць у Галоўнаю Управу Т-ва Беларускае Школы. Гэтыя заявы будуць мець вялікае значэньне дзеля здабыцьця беларускае школы ў дадзенай мясцовасьці і наагул.

3) Усе тыя бацькі ці апякуны, каторыя дэклярацыі на роднаю беларускаю школу з розных прычынаў летась увосень і зіму да 31-га сьнежня **не падавалі**, павінны лічыць

сваім грамадзкім абавязкам падаць іх у гэтым годзе, пачынаючы ад 1-га верасьня да 31-га сьнежня.

Па інструкцыі ў гэтай справе зварочавайцеся ў Галоўнаю Управу Т-ва Беларускае Школы ў Вільні, вул. Сьв. Анны 2—3.

Калі ў даным месьце ці вёсцы не набярэцца дэкларацыяў на поўны камплект, гэта значыць на 40 дзяцей, то падавайце толькі, колькі набярэцца, бо ўсе пададзеныя дэкларацыі будуць мець вялікае значэньне дзеля здабыцьця беларускае школы.

Калі ў тых мясцох, дзе падавалі дэкларацыі, школы беларускія да 1-га верасьня не адчынены, дык там таксама трэба падаваць дэкларацыі.

4) Валасныя і мястовыя рады, у каторых ёсьць сьвядомая беларуская большасьць, павінны вынясьці пастанову аб адчыненьні беларускіх школаў там, дзе насяленьне падало на беларускія школы дэкларацыі, а таксама і там, дзе дэкларацыяў не падавалі.

5) У тых валасных радах і магістратах, дзе няма сьвядомай беларускай большасьці, беларускія сябры іх няхай пастараюцца пераканаць іншых аб патрэбе гэтакай пастановы, а дзе ня можна дапяць большасьці дзеля такой пастановы, няхай сьвядомыя беларускія сябры радаў і магістратаў ад сябе зробяць у іх заявы аб патрэбе адчыніць беларускія школы.

Гэтыя пастановы валасных і мястовых радаў і заявы асобных сяброў ці групаў трэба прысладь у Галоўнаю Управу Т-ва Бел. Школы.

6) Усе Беларусы на ўсіх вечах, зборках і паседжаньнях дамагайцеся пастановаў аб патрэбе адчыненьня беларускай школы. Нічога, калі Вам скажуць, што зборка „гэтым не займаецца“, бо бараніць дзеці ад калецтва чужой школай і дамагацца для іх здаровага развою ў сваёй роднай школе ўсюды ёсьць месца й час.

---

Усе гэтыя заявы й пастановы, адным словам усе гэтыя дамаганьні беларускае школы будуць надрукаваны ў вялізнай кнізе ў беларускай і чужых мовах. Гэта зьверне ўвагу ўсяго сьвету на нашыя патрэбы, на нашае гора і несправядлівыя адносіны да нас.

Імёны тых Беларусаў, што прыймуць учасьце ў гэтай дзейнасьці, будуць запісаны ў гісторыі залатымі літарамі.

Зварочуемся да ўсіх беларускіх арганізацыяў і установаў прылучыцца да гэтае нашае адозвы й акцыі, а ўсе краёвыя часопісі надрукаваць яе.

**Галоўная Управа**
**Таварыства Беларускае Школы.**

Вільня.

# Культурныя навіны.

**У Беларускай Гімназыі ў Вільні.** Польская ўлада не зацьвердзіла сёлета трох вучыцялёў гімназыі: Савіцкага, Сіняўскага й Заморына; усе гэтыя вучыцялі з вышпай асьветай. Незацьверджаны яны з прычыны благога пагляду аб іх дэфэнзывы, каторая, як бачым, мяшаецца навет у школьныя справы. Замест незацьверджаных прыняты за вучыцялёў у Гімназыю іншыя пэдагогі: д-р І. Дварчанін (беларуская мова), д-р Марцінчык (гігіена і інш.) і В. Грышкевіч (гісторыя). Польскую мову сёлета вуча п. Аляксандровічыха, гісторыю Польшчы С. Віслаўух. Дырэктарам зацьверджаны С. Паўловіч, інспэктарам абраны д-р Марцінчык.

**У Беларускай Гімназыі Фр. Скарыны ў Радашкавічах** занятні пачаліся як звычайна. Польская ўлада ня хоча зацьвердзіць вучыцялёў беларусаведаў—Гаўрыліка й Караля. Трэба спадзявацца, што ўлада зразумее, што гэткімі благімі адносінамі да беларускіх гімназыеў нічога не дапне, і гэтыя вучыцялі будуць зацьверджаны.

**Якія адносіны да беларускіх матурыстаў.** Ня гледзячы на тое, што беларускія гімназыі ў Зах. Беларусі стаяць ня ніжэй за шмат якія польскія ўрадовыя, ім польская школьная ўлада не дае правоў публічнасьці (апрача аднае гімназыі—Наваградзкае, каторая якраз стаіць ніжэй за іншыя гімназыі беларускія). Ня могучы паступіць у польскія ўнівэрсытэты, беларускія матурысты выяжджаюць у ўнівэрсытэты заграпічныя, на Заход або на Усход—у Менск. Тыя, што аставаліся ў Зах. Беларусі паступалі надзвычайнымі студэнтамі ў Віленскі ўнівэрсытэт, каб потым, здаўшы экзамен на ўрадовую матуру, стаць студэнтамі звычайнымі. Але сёлета й надзвычайнымі слухачамі іх у Віленскі ў-т не прынялі. Нельга сабе прадставіць чагось падобнага на сьвеце! Беларускія матурысты вышшую асьвету ўсё роўна здабудуць, але таго, як з імі абходзяцца, яны (дый ці толькі яны!) ніколі не забудуцца.

**Вышшыя студыі беларусаведы.** Даўно падыйманае пытаньне сярод культурных і навуковых беларускіх рабочаёў Заходняе Беларусі аб залажэньні ў Вільні вышшае студыі беларусаведы сёлета мае быць рэалізавана. Т-ва Беларускае Школы падало ўжо заяву аб дазваленьне на гэтыя студыі.

На студыях будзе выкладацца беларуская мова (гісторыя, дыялектолёгія, літаратурная беларуская мова), гісторыя беларускае літаратуры старой і новай, гісторыя Беларусі і краяведа. Будуць чытацца лекцыі і весьціся сэмінары. Праграма мае адпавядаць праграме ўнівэрсытэцкай вышменаваных прадметаў. На студыях будзе зьвернена ўвага як на навуковае вывучэньне праходжаных прадметаў, так і на дасканальнае практычнае карыстаньне беларускай мовай.

## Дасталі падпіску

ад Грам. Грам.: Дыр. Сахарава 24 зал., У. Каліноўскага 2 дал., Сяргея Казла 8 зал., Тодара Поболя 6 зал., М. Васілеўскага 5 зал.

Ад Л. Бердніка, Уладз. Спаса, Андрэя Магільніцкага, Пётры Тымашэвіча, Андрэя Гвая, Літаратурнага Гуртка Беларускае Гімназыі ў Клецку, Язэпа Баўтрукевіча, Я. Смыка, Тодара Мікуты, Міхала Кулеўскага, Гуртка Т-ва Беларускае Школы ў Канюшоўшчыне (Я. Пасюкевіча), Грыгора Тамашука—па 4 зал.

Ад Він. Кірэя, Арляняцкага Гуртка Бел. Інст. Гаспадаркі й Культуры, Вяліка-Жухавіцкага Гуртка Т-ве Бел. Школы, С. Бабровіча, Тамаша Грыгаровіча—па 3 зал.

Ад Язэпа Санчука, Зыдара Кур'яна, Мікалая Ніхунца, Барыса Махляра—па 2 зал. 50 гр., Ігната Белькевіча 2 з. 25 гр.

Ад Мірскай Акружной Управы і ад Луцкага Гуртка Т-ва Белар. Школы—па 2 зал. (пераслала Г. Сташэўская), Мікалая Курловіча, Уладз. Ясюкевіча, А. Дудкі, К. Патоцкага, Я. Сухалета, Мікалая Пасюты, Пётры Крука, Міколы Трахімчыка, Міколы Петэльскага, Платона Грышкевіча, Любы Зоркі, А. Барадакі, Міхала Хруцкага, Селецкага Гуртка Т-ва Бел. Школы, Івана Грушы, Макарэвіча, Народ. Дому Т-ва Белар. Школы ў Лідзе, Я. Цыўнеля, Янкі Дарашкевіча, Язэпа Таранды, Янкі Сваткі, Бібліотэкі-Чытальні ў в. Лукаўцы Т-ва Белар. Школы, Люцеўскага Гуртка Т-ва Белар. Школы, Філімона Барташука, Платона Каробкі, Мацея Апанасевіча, Станіслава Татарыновіча—па 2 зал.

Ад Янкі Тарыкава 1 зал. 55 гр., Язэпа Сарыля 75 гр. Я. Мікшы 75 гр.

## ЗЬМЕСТ.



Выдавец-Рэдактар: **М. Станкевіч.**

Друкарня С. Бэкера, Вільня, Субач 2.